Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэсу 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№ 5 Вільня, Серада, 28-га красавіка 1926 г. Год І.

## Сымвал перамогі.

На ўсенькім сьвеце йдзе бязупыннае змаганьне дзьвюх сілаў: *Працы* з *Капіталам.*

Усё сучаснае жыцьцё нашага сьвету неразрыўна зьвязана з гэтым змаганьнем і кшталтуецца так або сяк залежна ад таго, якая з гэных дзьвюх сілаў бярэ верх.

Мала таго: кожная вялікшая перамога Працы ў адным месцы ўзмацоўвае сілы працоўных і ў другіх. Так сама ўзмацаваньне сілы Капіталу ў аднэй часьціне сьвету няўхільна вядзе да таго-ж і ў другіх.

Гэты *міжнародавы, сусьветны характар барацьбы*, якая йдзе паміж Працай і Капіталам, ужо даўно вельмі добра зразумелі і ацанілі працоўныя ўсіх краёў і народаў. А выяўленьнем гэткага зразуменьня і солідарнасьці працоўных усяго сьвету зьяўляецца сьвяткаваньне дня 1-га мая—*Сьвята Працы.*

Толькі-ж ня ўсюды Сьвята Працы мае той самы характар, той самы зьмест.

Там, дзе палітычная ўлада знаходзіцца ў руках валадаючых клясаў, дзе Капітал пануе і сацыяльна і палітычна,—там сьвяткаваньне 1-га мая зьяўляецца само па сабе *актам барацьбы*. Пад Чырвоным Сьцягам выходзяць працоўныя мест на вуліцы — з песьняй Волі на вуснах — і ў масавых паходах паказуюць усім сваю сілу, ладзяць вялізарныя сходы — мітынгі, галасна заяўляюць аб сваіх патрэбах і дамаганьнях. І гэты *ўсенародны перагляд сілаў* сьвядомых работнікаў, гэтае выяўленьне моцы работніцкіх арганізацыяў — больш, чым усякія іншыя способы агітацыі, усьведамляюць нясьведамых ці маласьведамых працаўнікоў, паказуюць лучнасьць усіх сяброў вялікае сусьветнае працоўнае сям'і, узмацоўваюць гэту лучнасьць і заклікаюць у рады працоўнае арміі новых змагароў за вызваленьне Працы ад Капіталу. А песьням і клічам работнікаў мёст уторыць іх браты — *вясковыя рабачаі*, якія церпяць асаблівы вызыск з боку капіталу, бо распылены на вялізарных абшарах, бо ім цяжэй даваць адпор вызыскуючым. І, заглядаючыся на места, працоўная вёска ў дзень Сьвята Працы таксама лучыцца ў-вадно, на сваіх сходках разважае сваю долю, шукае шляху да зьдзейсьненьня сваіх лятуценьняў аб *вольнай працы* на *сваей зямлі*, цяпер апанаванай тымі, хто карыстаецца ею толькі дзеля вызыску чужое працы. Так з году ў год растуць і арганізуюцца сьвядомыя сілы працоўных места і вёскі, якія супольным сьвяткаваньнем 1-га мая паказуюць, што *і мястовы работнік і вясковец-працаўнік*—гэта *родныя браты*, сябры аднае працоўнае сям'і.

Вось-жа самая арганізацыя сіл працоўных дзеля барацьбы з Капіталам і ёсьць ужо актам барацьбы. І, успамінаючы старыя часы ў царскай Расеі, дзе пад верхавенствам „самадзержца“ панаваў над працоўнымі места і вёскі цесны хаўрус капіталістаў, мястовае і зямельнае буржуазіі і—бюракратыі, мы бачым, што не здарма там кожнае першамайскае выступленьне працоўных разьбівалася штыхамі і кулямі, а кроў работнікаў, чырвоная, як іх сьцягі, залівала вуліцы вялікшых мест.... Не здарма, бо шляхам гэтых штогодных выступленьняў, шляхам сталага, арганізованага змаганьня працоўныя Расеі ня толькі ў канцы канцоў скінулі царскае і панскае *палітычнае* ярмо, але і дайшлі такое сілы, што здолелі зламаць *сацыяльнае* панаваньне Капіталу над Працай.

Цяпер фактычна толькі там — у Саюзе Сацыялістычных Радавых Рэспублік — дзень 1-га мая зьяўляецца запраўдным *сьвяточным днём* у звычайным разуменьні слова „сьвята“. Апрача ССРР—усюды Сьвята Працоўных зьяўляецца ўсё яшчэ актам змаганьня—барацьбы. І сёлетні Першы Май іменна ў такім характары спраўляецца і ў большай часьці Эўропы, і ў Амэрыцы, і ў паняволеных белымі „культуртрэгерамі“ „каляровых“ краінах...

Але, як мы сказалі напачатку, перамога Працы над Капіталам у адным месцы зямное кулі няўхільна павялічывае шансы на перамогу і ў другіх. Дык з кожным годам сьвяткаваньне Сьвята Працы ўсюды прымае ўсё больш інтэнсыўны характар, усюды зьяўляецца *запаведзяй перамогі працоўных* — усё больш і больш блізкай. І ў праменьнях веснавога сонца — сымвалу перамогі сьвятла і цяпла над зімовай цемрай і сьцюжай — ўсе больш і больш горда ўзьвіваецца Чырвоны Сьцяг, як сымвал няўхільнае перамогі Працы над Капіталам.

## Проці новага наступу.

Ніводнага году яшчэ ня было нам так цяжка жыць, як сёлета. Па гарадох ня маець працы больш палавіны ўсіх работнікаў. Тысячы людзей—абдзертых, высахшых ад голаду, ня маючы ніякай надзеі на будучыню, бо безрабоцьце ўсё збольшываецца,—ходзяць бяз мэты па вуліцах, або, сабраўшыся перад магістратамі, дамагаюцца хлеба, працы. Чым гэта канчаецца.. ўсім ведама!

Многа гаворыцца аб дапамозе безработным. Буржуазныя газэты кожны злоты, выданы для безработных, лічаць дзесяць разоў і пішуць аб гэтым дзесяць разоў. Сапраўды-ж — гэта кропля ў моры: вялічэзная большасьць, масы—ніякай дапамогай не карыстаюцца. Крэдыты на розныя будовы для заняцьця безработных амаль ніякага паважнага значэньня ня маюць,—яны сьмешна малыя! У Вільні напр., ёсьць каля 6.000 людзей бяз працы. Выасыгнавана на работы для іх 50.000 зл. Гэта значыць, што, калі-б ім усім даць працу, — хапіла-б яе толькі на адзін тыдзень...

Галадаюць і тыя работнікі, тыя „шчасьлівыя“, каротыя яшчэ маюць працу. На іх спаганяюць капіталісты страты ад зьмяншэньня ліку працуючых сіл. Іх змушаюць працаваць і за сябе і за выкіненых. Плата аднačасна абрэзываецца.

Спадак злотага, рост дарагоўлі перш-наперш нішчыць работніка. Капіталіст падыймаець цэны тавараў, але аб павышэньні заработнай платы ня можа быць гутаркі, хоць пралетар усё мусіць купляць даражэй... Гэта па гарадох.

Ня лепш жывецца і масе сялянства. Ізноў тысячы, тысячы людзей, каторыя даўней жылі ў большэй палавіне з заработкаў, ня маець гэтай працы, ды не атрымоўваець пры тым ніякай дапамогі, гэта найбольш кідаецца ў вочы ў Зах. Беларусі. Малазямельны селянін тутка ніколі ня мог пражыць на сваім кавалку зямлі. Буржуазныя ўрады, якія так доўга гаварылі аб зямельнай рэформе, ня толькі ня далі яе, але завастрылі йшчэ больш зямельнае пытаньне. Даўней у нас селянін дарабляў на старане. Сягодня ён прыкуты да зямлі, бо йсьці няма куды, і хоць цэлымі месяцамі ня бачыць хлеба, аджыўляецца бульбай,— дый на гэта так сама не хапае. У канцы падаткі. Жыць няма з чаго, а падаткі ў некалькі разоў большыя, як перад войной. А не заплаціш, дык прадацуць адзежу, інвэнтар — усё, што яшчэ асталася.

---

Ня дзіва, што жыць цяжка. Працоўныя масы мусяць ня толькі зьбіваць капіталы для фабрыкантаў і абшарнікаў, але аплачываць сваімі сіламі ўвесь апарат дзяржавы. На гэту самую дзяржаву, якая перад усім бароне інтарэсы валадаючых клясаў, буржуазія ня хоча даць нічога, або дае найменш. Тое-ж самае трэ' сказаць і аб шкоднай для працоўных і карыснай для буржуазіі мілітарыстычнай палітыцы: працоўныя масы мусяць аддаваць сваіх сыноў і апошні грош на ваеншчыну, зусім непасільную для краю.

Пануючыя клясы жаляцца, што і ім цяжка. Гэта трэба разумець так, што яны-б хацелі больш людзям „даваць працу“, ці іначай: большую масу людзей выкарыстываць. Тымчасам з прычыны крызісу фабрыкі зачыняюцца. Але вінаваты ў гэтым ізноў-жа той, хто зьнішчыў працоўныя масы так, што яны нічога з вырабаў фабрык купляць ня ў сілах, што няма для каго выраб‍ляць тавары. А хто, далей, зрабіў немагчымым вываз за граніцу? Польшча пры сваей тэхнічнай адсталай прамысловасьці ня можа канкураваць з Захадам. Туды яна нічога ня вывезе. Адзіны магчымы збыт заграніцу—гэта ў ССРР, але з ССРР буржуазія ня хоча мець зносін. Яна ахватней вывозіць свае капіталы, зьбітыя з поту і працы работнікаў і сялян Польшчы, заграніцу, кладзе іх у банкі на працэнты, ды гэтак сабе зарабляець, а тымчасам край—гіне.

Кажуць, што ёсьць дрэнна і ня можыць быць лепей.—Няпраўда! Можа быць лепей і будзе лепш, калі ўладу возьмуць у свае рукі работнікі і сяляне, калі дзяржава будзе бараніць не інтэрэсы буржуазіі і абшарнікаў, а працоўных мас.

---

Гэта будзе, але калі і як?

Тымчасам у апошнім тыдню адбываюцца вялічэзнай вагі падзеі. Буржуазнаму ўраду не хапіла грошаў, узятых з народу, на пакрыцьце дзяржаўных выдаткаў. У бюджэце недахват. І вось ідуць нарады аб новым закабаленьні сялян і работнікаў, аб новым аблажэньні працоўных мас, аб новых „рэдукцыях“—выкіданьні на вуліцу служачых і работнікаў.

Сучасны ўрад ня бачыць іншага выхаду з палажэньня. Ад капіталістаў і абшарнікаў спаганяць старых даўгоў ён ня думае, тым больш абкладываць іх новымі падаткамі. Буржуазія рыхтуецца да новага наступу на працоўных.

Навет правадыры ППС, якія дагэтуль разам з усім урадам грашылі проці працоўных, — і тыя пры гэтым новым наступе буржуазіі, баючыся страціць рэшткі послуху ў працоўных мас, — выйшлі з ураду. Міністар Зьдзеховскі выступіў проці працоўных адкрыта; ППС выставілі свой праект латаньня бюджэту, які зусім нязначна розьніцца ад буржуазнага, і, калі яго адкінулі,— падаліся ў адстаўку. Мы ня верым ППС, мы ведаем, што з боку іх—гэта толькі манэўр. Раней, ці пазьней, яны йзноў вернуцца служыць буржуазіі, як гэта ўжо робяць 7 гадоў. Але ня ў гэтым толькі справа: найважней тое, што навет з ППС буржуазія ня хоча лічыцца, што, наважыўшыся ўваліць увесь новы цяжар ратаваньня скарбу на працуючых, — яна, ужо не аглядаючыся на сваіх саюзьнікаў—пэпэсаў, імкнецца да выразнай дыктатуры.

Капіталісты і абшарнікі лічаць на сваю арганізаванасьць. На іх услугі — дзяржаўны апарат. Пад скрыдламі „дэмократычнага“ ўраду, пускаючага проці безработных—аружжа, напладзілася ў белы дзень шмат фашыстаўскіх і монархістычных банд, каторымі буржуазія можа заўсёды карыстацца.

Усей гэтай сіле працоўныя масы мусяць проціставіць сваю сілу.—Сілу арганізацыі сялян. Калі наступ капіталістаў і абшарнікаў — ня будзе ўстрыманы, дык бядзе і руіне ня будзе канца. Кожны селянін і работнік павінен аб гэтым памятаць. Наступ на рабочую клясу—гэта наступ на яго, хаця-б мо' адразу яго і ня выкінулі з працы. Толькі баронячыся ўсе разам—мы не дадзём буржуазіі перакласьці на нас дзяржаўныя цяжары і вырваць нам апошні кавалак хлеба, змусім яе адступіць, крок за крокам адваюем сабе правы.

Ад абароны проці сягоньняшняга наступу мы і мусім зачынаць. Работнікі ўсіх нацыянальнасьцяў мусяць выступіць проці замахаў на дапамогі безработным, старцам, удовам, інвалідам, проці новага звальняньня рабочых дзеля латаньня скарбу, проці замахаў на 8-гадзінны рабочы дзень і проці зьмяншаньня заработкаў, проці новых падаткаў, проці разгрому работніцкіх арганізацыяў, проці новага закабаліваньня працоўнае вёскі—натуральнага саюзьніка іх. Сяляне — за ўсе свае сялянскія і работніцкія дамаганьні, за помач безработным на вёсцы, за крэдыты для вёскі, за свае самаўрады, за свабодную арганізацыю сялян.

Такі мусіць быць адказ працоўных на йшчэ адзін наступ буржуазіі.

---

**Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!**

# Зазлаваушыя „фракі“.

*(Да выхаду П.П.С. з „коаліцыі“).*

## Як „фракі“ ўвайшлі ў урад.

Мы памятаем, як каля паўгоду назад хваліліся сваім „дзяржаўным розумам“ дый сваім „пачуцьцём адказнасьці“,—з якім трыумфам самазахапленьня тварылі коаліцыйную хэўру з эндэкамі ды пястоўцамі г. зв. „польскія сацыялісты“.

Памятаем, як тады на партыйным зьезьдзе ППС ашуканая правадырамі вялізарная большасьць партыі адобрыла ўваход пэпээсаўскіх міністраў у склад кулацка-абшарніцка-буржуазнага ўраду, каб разам з сьмяротнымі ворагамі работнікаў і сялян—бараніць... іх „сацыяльныя заваяваньні“.

Памятаем, як тады розныя Недзялковскія, Дашынскія, Барліцкія — усе „дыяманты і пэрлы“ г. зв. польскага сацыялізму—захопліваліся, заклікаючы ратаваць польскую „прамысловасьць“, ці папросту—польскую буржуазію, даводзячы, што толькі сьпярша адратаваўшы яе польскія работнікі тым самым адратуюць дый адбудуюць сваё жыцьцё, свой дабрабыт, што інакш—прападзе работніцкая кляса ў Польшчы, як дзіця бяз маткі.

Памятаем і тое, як, пасадзіўшы сваіх таварышоў міністрамі за супольны стол з Кернікамі, Грабскімі ды Зьдзеховскімі, пачалі задзіраць свае дробненькія галоўкі розныя паны „Недзялковскія“, як пагардліва трактавалі ўсіх тых, што асталіся ў апазіцыі: усе польскія „радыкальна-сялянскія“ групы,—ня кажучы ўжо аб угрупаваньнях запраўды сялянскіх, камуністычных дый нацыянальных меншасьцяў.

## Што „фракі“ рабілі там?

Цэлых пяць месяцаў дый з паловай панавала ў Польшчы і гаспадарыла ў краі—буржуазна-абшарніцкая хэўра, далей руйнуючы працоўныя масы. Дзякуючы ўчасьцю ППС, яна магла ашуківаць народ тым, што ў Польшчы ўлада „агульна народовая“. І вось, цяпер, калі, можна сказаць,— буржуазія папросту выгнала з коаліцыі пэпээсаў, — цяпер зазлаввўшыя пэпээсы падлічаюць вынікі гэтага гаспадараньня, вінавацячы дый лаюць за ўсё чамусьці не сябе, а толькі сваіх былых калегаў, або лепш: паноў—эндэкаў.

Як сьцьвярджае цяпер сама ППС у толькі-што выданым гучным „маніфэсьце“, усе яе „спробы нахіліць польскую буржуазію да направы“ краю, як і ўсе „ахвяры“ паноў пэпээсаў,—прапалі дарма! З „вялікай праграмы“, высунутай ды апрабаванай на партыйным зьезьдзе ППС, — каб „сьпярша адратаваць буржуазію, а пасьля—(бо-ж тым самым!) адратаваць пралетарыят“—пэпээсаўскія правадыры шчыра прычыніліся, насколькі было магчыма наагул,—да выпашэньня толькі першай паловы. За той час абшарніцтва і буржуазія ў Польшчы настолькі ўзмацаваліся, што яны маглі прагнаць з ураду надаеўшых ім, — непатрэбных і бязрадных ды бяссільных пэпээсаў.

У гэтым „маніфэсьце“ П. П. С. сьцьвярджае, што,—ня гледзячы на ўсе „стараньні“ і „наляганьні“, не зважаючы на ўсю „працу“ ды „вальку“ пэпээсаўскіх міністраў з сваімі калегамі-ворагамі ў лоне ўраду, міністры-сацыялісты „заўсёды спатыкалі адно толькі—апор з боку буржуазнай большасьці коаліцыйнага ўраду, якая папросту навет ня выконывала ніякіх спраў, ня толькі ўмоўленых у лоне ўраду, але і—праведзеных, як закон, галасамі коаліцыі праз Сойм, калі гэтыя законы буржуазія лічыла для сябе шкоднымі“.

## Вось дык—коаліцыя!

Пэпээсы робіць гэткія закіды:

1) Ня гледзячы на пратэсты пэпээсаў, „коаліцыйны“ ўрад дазволіў абшарнікам ды кулакам-пястоўцам вывезьці з краю амаль ня ўвесь запас збожа, ламаючы тым прыняты Соймам закон аб— „забясьпечаньні краю прадметаў першай патрэбы“.

2) Не зважаючы на пратэсты ППС, коаліцыйны ўрад толькі пасьля таго, як абшарнікі вывезьлі ўсё сваё збожа за-граніцу, пахаваўшы ў тамтэйшых банках добрыя валюты,—правёў праз Сойм „закон аб спагоне падаткаў натурай“, які гэткім чынам, абмінаючы абшарнікаў, усім сваім цяжарам кладзецца на бяднейшае сялянства, адбіраючы ў яго ад вуснаў апошні кавалак хлеба...

3) „Коаліцыйны ўрад“ папросту адмахнуўся, як бугай ад мухі, ад „трэбаваньня“ (!) ППС — раскрыць ліхвярства прамысloўцаў, высьветліўшы запраўдныя кошты прадукцыі...

4) Не зьварачаючы ніякай увагі на „вальку“ ППС, коаліцыйны ўрад дараваў краёвым капіталістам—700 мільёнаў маёнтковага падатку, які ён, урад, меў і мае законам устаноўленае права і абавязак—спагнаць у працягу трох гадоў...

5) І той самы коаліцыйны ўрад, ня гледзячы на прысутнасьць дый „працу“ „абаронцаў працоўных“,—вось ужо ў працягу чатырох месяцаў страшэнна крыўдзіць урадоўцаў дый работнікаў, будуючы ўсю сваю „санацыю“—коштам найбяднейшых слаёў насяленьня краю...

6) Як-быццам навет ня чуючы „пратэстаў“ асьвечаных паноў пэпээсаў, іх калега па габінэту міністар „прасьветы“ Грабскі—„зачыніў літоўскія школы ў Польшчы, адабраў украінцам і беларусам каля 1000 школаў, перарабіўшы іх на польскія“...

7) Не сьцясьняючыся „кантролем“ сацыялістаў, урад п. Рачкевіча—„распусьціў паліцэйскую самаволю па ўсім краю, адзначаючыся такімі агіднымі забойствамі людзей, якія, напрыклад, мелі мейсца ў Стрыі“, ды шмат дзе інш... („Robotnik“ № 111—23/IV).

Вось што сьцьвярджае цяпер Польская Сацыялістычная Партыя ў сваім „Маніфэсьце“... Вось якія запраўды цяжкія ахвяры, ды ня толькі для сваей „павагі“, але перад усім — для працоўных масаў краю—прынесла ППС на карысьць польскай буржуазіі...

Усё гэта вытрымоўвала „цярплівасьць ППС“, (як сьцьвярджае „Маніфэст“).

Не магла толькі вытрымаць гэтая пэпээсаўская „цярплівасьць“ ды амбіцыя пагарды з боку тэй буржуазіі, якой так, здавалася, шчыра аддалася „пэпээсаўская флёндра“ (выражэньне „Незалежнага Хлопа“).

## Як каецца „флёндра“, калі яе выгналі?

Толькі тады, калі ППС выгналі з коаліцыі, яна пачала лаяць, клясьці ды страшыць сваіх былых паноў—усялякімі клятвамі ды страхоцьцямі...

Тады Стан. Грабскі аказаўся—„пагромшчыкам асьветы ў Польшчы“.

Тады—аказаўся „гаспадарчы крызіс у Польшчы сьмяротнай хваробай капіталізму“...

Цяпер ужо аказалася „праграма коаліцыйнага міністра Зьдзеховскага — правакацыяй адносна працоўных і наагул — убогіх людзей у Польшчы“...

Цяпер ужо той самы п. Скшыньскі, якім так захаплялася гэтая „флёндра“, ходзючы да яго „габінэту“ ў працягу пяці месяцаў зьлішкам, цяпер ён аказываецца — „вельмі ліхім прэм'ерам“, „параванам для Хіена-Пяста“, яго „новы“ урад, кажа прагнаная „флёндра“,—„няздольны да жыцьця“, дый самаму п. Скшыньскаму яна прарочыць, што і яго так сама прагоніць Хіена-Пяст, як той прагнаў „пэпэсіцу“.

На ўвесь соймавы двор крычыць „флёндра“, каб іншыя дзеўкі „не давалі ўжо больш веры і значэньня заявам ды прырачэньням п. Скшыньскага“, гэтага „здрадзіўшага“ яе (так літэральна і піша „пэпээсіца“) пана.

Дык вось,—бачыце, мае паночкі, толькі цяпер усё гэта зразумелі г.-зв. польскія сацыялісты, цяпер, калі эндэкі змусілі іх выйсьці з коаліцыі!..

Зразумелі яны цяпер і тое, што „Скшыньскім круціць, як хоча, супалка „Зьдзеховскі-Вітас“. Але тады, калі тая-ж супалка круціла разам з ППС, тады пэпээсы гэтага неяк не заўважвалі... Зразумелі пэпээсы і тое, што тая-ж супалка круціць чымсьці і вышэй Скшыньскага, дый яна-ж змусіла Скшыньскага — праз пана Прэзыдэнта — астацца разам з „кадлубовым урадам“ на становішчы і пасьля выхаду пэпээсаў. — Астаўленьне гэткага ўраду Скшыньскага — інтрыга рэакцыі“... А як-жа-ж назваць — стварэньне гэткага ўраду, чым так хваліліся пэпээсы?!. — Бо запраўды ж ніякай розьніцы няма між абыдвума ўрадамі—з пэпээсамі ці бяз іх, як пішуць у сваім „Маніфэсьце“ самі-ж пэпээсы! Часта буржуазны ўрад—прычыніцца толькі да паглыбленьня сьведамасьці шырокіх масаў: ані вонках ня будзе ніякай баламутнай вывескі, ані ўнутры ня будзе абегу фальшывых вэксалёў буржуазіі на работніцкія масы, жыраваных праз ППС!..

## Пабітым тварам да вёскі!

Каб утрымацца ўсёткі на мейсцы лякая, каб даказаць пану, што ППС можа быць яму патрэбна, яны робяць застрашаючы гест, павярнуліся — амаль не паводле „ўсходняга прыкладу“!—„тварам да вёскі“!..

Толькі што лаяўшая апошнімі славамі ўсе бяз вынятку сялянскія партыі і групы ў Сойме (апрача адных толькі мілых сэрцу п. Недзялковскага пястоўцаў!), цяпер раптам ППС прапануе сялянскім паслам — „супольны дэмакратычны фронт“ проці буржуазіі ды абшарніцтва...—Пабачыце,—страшыць ППС сялянства ў Польшчы,—як стаўшыя на нашае мейсца ў коаліцыі „хрысьціянскія абшарнікі“ — дубадэкі „будуць праводзіць у жыцьцё зямельную рэформу“!..

Але-ж, далібог, — і тут такой ужо вялікай розьніцы зусім ня будзе!—Можа, запраўды-ж каму з польскіх асаднікаў будзе прыемней, калі паны Барліцкія ды Земенцкія, але не Замойскія ды Ваньковічы з Кернікамі і Вітасамі будуць садзіць на карк беларускага сялянства асаднікаў ды розных „афіцыялістаў“ з панскіх двароў з Варшаўшчыны ці Пазнані... Але—для беларусаў ці ўкраінцаў гэта—далібог — усё роўна!.. — Дык—як ні баяліся польскія абшарнікі дагэтуль лаянак ды „барацьбы“ ППС, калі яна была ў коаліцыі, а рабілі сабе сваё! Таксама ня страцяць яны, як і польская буржуазія, свайго добрага жываедзкага апэтыту і ад „рашучага завастрэньня“ пэпээсаўскай „апазыцыі“ і цяпер!..

## Фліртуе са злосьці „флёндра“ і з меншасьцямі.

Страшаць польскую буржуазію „разьлічаныя“ пэпээсы і сваім новым фліртам з меншасьцямі, ведаючы—па сабе самых,—што няма для польскага нацыяналізму горшай зморы, як „роўнасьць“ меншасьцяў—з „прыраджонымі гаспадарамі краю“ — палякамі!..

Дык вось, шчыра ...зазлаваўшы на нацыяналістычную польскую буржуазію, пэпээсы „абяцуюць“ меншасьцям—ня толькі роўнасьць, ня толькі „роўнауладнасьць“ у Польскай Дзяржаве, але, як пайшлі чуткі—амаль не (—беражыце душы ды вушы, паны эндэцыя!) — „права на самаазначэньне“!.. можа навет—„вплоть до отделенія“, ці штосьці вельмі падобнае!..

Калі гэта—праўда, дык запраўды на зьдзіў цікавая „эвалюцыя“ адбылася ў „польскай сацыялістычнай сьведамасьці“ за якіясь 3 гады, ці—можа—за 3 дні!..—Яшчэ, здаецца, так нядаўна шэф Горадзенскай дэфэнзывы, слаўны капітан Ярэцкі, сябра ППС, пасадзіў беларускага пасла Барана на 4 гады ў „катаргу“—за „адарваньне“ ды „стварэнь-

# З віленскіх „маёвых“ успамінаў.

Перад сьвяткаваньнем 1-га мая, гледзячы на руплівую падгатоўку да яго, мімаволі ўстаюць перад вачыма абразкі даўно мінулых часоў, якія захоўваюцца ў памяці ўсё меншае і меншае лічбы людзей, быўшых сьведкамі мінулага...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1905 год. Год, у якім доўга прыціснаная царскім урадам выбуховая энэргія працоўных усіх нацыянальнасьцяў урэшце прабілася наверх, хоць і не дайшла рашучае перамогі...

Ужо ад самага пачатку гэтага году—у выніку страшэнных паражэньняў расейскіх войск на палёх Манджурыі, заліўшых зямлю сваей крывёй дзеля прагавітасьці банды высокапастаўленых афэрыстаў,—мы былі сьведкамі цэлага раду рэвалюцыйных праяваў па ўсей Расеі. 6-га студзеня — у часе вадохрышча на Няве ў Пецярбурзе—„віватовы“ стрэл з Петрапаўлаўскае крэпасьці ўсадзіў добрую жменю карцечы ў памост, дзе быў цар і ўсе вышэйшыя асобы дзяржавы... А сьледам за гэтым—расстрэл паходу работнікаў, якія з царскімі партрэтамі і царкоўнымі харугвамі пад павадырствам папа Гапона йшлі да цара... „прасіць“ свабоды! Наіўныя: свабоды ня просяць — бяруць! — І вось па ўсей Расеі пачаліся работніцкія і сялянскія, а то і вайсковыя разрухі, акты палітычнага тэрору, рабаваньне казначэйстваў і паштовых кас (Пілсудскі і інш.) і г. д.

Вільня не асталася нячулай на агульны настрой, які запанаваў на ўсіх розноплеменных абшарах імпэрыі цароў. Вясна 1905 году была тутака вельмі бурная. Работніцкія мітынгі, дэманстрацыі былі стала на парадку дня.

Падыйшоў Першы Май. Віленскія работнікі энэргічна рыхтаваліся да выступленьня. І вось, ня гледзячы на ўсе пагрозы з боку расейскае ўлады, у самы палудзень выпушыў вялікі работніцкі паход з чырвонымі сьцягамі.

Лішне трывожны быў гэта час, каб улада адважылася страляць у дэманстрантаў. Дый войска было мала: яшчэ не вярнулася з Манджурыі. Дык надумалі рад іншых спосабаў разьбіць маніфэстацыю.

Калі паход увайшоў на Нямецкую вуліцу, начальнік мястовае пажарнае каманды Лікман загадаў даць трывожны сыгнал, як на пажар. Мігам уся пажарная дружына была на сваіх машынах і бочках. Тады Лікман, узяўшы ажно два рэвальвэры—у кожную руку па адным, павёў ускач свой абоз у народ і ўрэзаўся ў паход, страляючы пры гэтым у мірных маніфэстантаў. Скарыстаўшы з узьняўшагася замяшаньня, паліцыя акружыла частку маніфэстантаў і загнала іх на пажарны двор, дзе ўсе былі заарыштаваны.

І вось з гэнымі арыштаваным губэрнатар тагачасны паступіў так агідна, як нікому да яго і ў галаву ня прыходзіла. Ён загадаў усіх арыштаваных сеч розгамі.

Пачалася агідная экзэкуцыя. Азьвярэўшыя паліцэйскія агенты кідаліся на арыштаваных — мужчын і жанок, зрывалі з іх вопратку і сяклі— часта да ўтраты прытомнасьці. А дзеля йшчэ большага зьдзеку быў вызначаны „казённы“ доктар Міхайлов трымаць пульс у катаваных, каб „не пашкодзіць здароўю“. І гэны слуга жандароў „сумленна“ сьцьвярджаў, што таму ці іншаму з катаваных „можна яшчэ ўсыпаць“...

Адказам на сячэньне арыштаваных быў стрэл работніка Лекерта ў губэрнатара — у часе прадстаўленьня ў цырку. Хаця пакушэньне не ўдалося, аднак, Лекерт па прыгавору даразнага суда быў павешаны.

Губэрнатар хутка быў пераведзены з Вільні ў нейкае другое мейсца, і ганебны ўчынак так і прайшоў яму бяскарна. Але астаўся ў Вільні доктар Міхайлов—учасьнік паганага дзела. І на яго вылілася помста рэволюцыйных элемэнтаў места Вільні.

Ня думайце, што пачуеце аб нейкай крывавай расправе! Не: яму проста заплацілі тым, у чым ён прымаў учасьце...

Неяк ужо ўвосені, адвячоркам, да кватэры д-ра Міхайлова пад'ехала карэта. Пазваніў нейкі „папанску“ адзеты чалавек. Калі выйшаў да яго Міхайлов, незнаёмы папрасіў доктара зараз-жа разам з ім ехаць да хворага, які ляжыць у вельмі цяжкім стане і патрабуе лекарскае помачы. Карэта чакае пад дзьвярыма.

Карэта як-быццам паказвала, што тут можна добра зарабіць. І доктар Міхайлов, хоць прыватнай практыкай займаўся рэдка, ахвотна згадзіўся ехаць.

Паехалі. Ехалі доўга — некуды на акраіну места. Спыніліся перад нейкім домам, і незнаёмы шпарка павёў доктара да хворага. Але якое-ж расчараваньне сустрэла тут Міхайлава! Замест у

не з адарванай часткі...“ і т. д...—на точнай падставе арт. 101 і 102 К. К. А цяпер партыйныя таварышы слаўнага капітана, кіруючыя партыяй, амаль не прапануюць—„легалізаваць“ гэтыя праступныя імкненьні беларускага народу—да самавызначэньня!..

Усяму гэтаму флірту мо-б навет крыху і паверыла беларускае грамадзянства, калі-б усё гэта ня пісалася ды не казалася толькі са злосьці на былых паноў—пад сьвежым уражаньнем афронту з боку эндэцыі... Бо-ж цяпер толькі і зьвярнуліся ППС—пабітым тварам да меншасьцяў!...

### Чаму буржуазія не баіцца „флёндры“?

Чаму-ж гэта, ня гледзячы на ўсе страхі ды лаянкі з боку ППС, польская буржуазія неяк зусім не баіцца яе „грознай апазыцыі“?..

Самі пэпэзсы даюць на гэта найлепшы адказ.

Дамагаючыся цяпер яшчэ больш гучна ды фарсіста—у першамайскіх адозвах — „стварэньня работніцка-сялянскага ўраду“, ППС чамусьці больш, як агня ды сьмерці, баіцца супольнага фронту ў барацьбе за зьдзейсьненьне гэтага лёзунгу—якраз з тымі партыямі, якія найбольш шчыра, дый найбольш рашуча імкнуцца зьдзейсьніць гэты лёзунг на дзеле. О, гэтага ППС дык якраз ня хоча!—Бо яна-ж выразна трэбуе, каб урад у Польшчы быў „пакуль што“ не работніцка-сялянскі, але... чыноўніцкі!!—Вось,—такі, які быў, напрыклад пры Грабскім, за кім так добра жылося панам пэпэзсам, ды за які яны, навет падтрымліваючы яго цішком, не нясьлі ніякай адказнасьці...

Яшчэ адну прычыну таго, чаму не баіцца пагрозаў ППС польская буржуазія, паказалі самі пэпэзсы.—У сваім „маніфэсьце“ яны пішуць:

„Урад (буржуазія) мае паліцыю,—дык на што яму нейкая там праграма?!“

Вось-вось!!. Урад Хіена-Пяста мае добрую паліцыю, якая толькі-што — у Любліне, Варшаве, Стрыі і шмат дзе інш.—даказала, што здолее „спаўняць свой службовы абавязак сьвята“...

Як ведама, гэтую паліцыю ў Польшчы стварылі... паны пэпэзсы, пасьля яе пераняді, прыціснуўшы да сэрца—пястоўцы, захапіўшы амаль ня ўсе яе „камандныя высоты“. Цяпер паліцыя, спароджаная ППС, шчыра служыць польскай буржуазіі...

А вось,—з кім вядзе буржуазная паліцыя ў Польшчы галоўную барацьбу, гэта ведама найляпей пэпэзсам, якія самі можа няменш шчыра, як пястоўцы ці эндэкі, памагаюць „таварышам у мундзірах“ паляваць на ўсе тыя небясьпечныя для ППС,—бо канкуруючыя з ёй сярод работнікаў — элемэнты, крыху шчырэй, як самі пэпэзсы, жадаючыя зьдзейсьніць тыя лёзунгі, якія пэпэзсам часам прыходзіцца пісаць на сваіх „штандарах“.

Ня можна сказаць, каб „таварышоў бяз мундзіраў“, памагаючых шчыра „таварышом у мундзірах“, зусім не цаніла польская буржуазія... Гэтае сацыялістычнае „душпастэрства“ буржуазія цяпер цэніць усюды ў сьвеце амаль не нароўні, як і касьцельнае... Але-ж, з'арганізаваўшы сабе добрых, як нідзе на сьвеце „таварышоў у мундзірах“ ды — у сутанах, буржуазія абойдзецца бяз ППС. І вось чаго яны злосьцяцца, ды стараюцца застрашыць, што бяз іх не абыйдзецца.

**Наглядчык.**

„Беларуская Справа“, адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны сьвядомы беларус павінен чытаць, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць сваей газэце.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Прапазіцыя ў справе зьмены Канстытуцыі.

Тры клюбы — Эндэцыі, Хадэцыі і Работнікаў-Нарадоўцаў падалі ў Сойм прапазіцыю аб зьмене Канстытуцыі.

Зьмена датычыць парадку роспуску Сойму і Сэнату. Клюбы польскай буржуазіі дамагаюцца, каб Канстытуцыя дапускала роспуск Сойму — на моцы пастановы $^2/_3$ прысутных паслоў (але каб было на паседжаньні ня менш паловы ўсіх паслоў Сойму). Тады адначасна тым самым распускаецца і Сэнат. А калі пастановіць распусьціцца Сэнат, дык тым самым разганяецца і Сойм. Пасьля, каб распусьціць Сойм меў права і Прэзыдэнт Рэспублікі—простым „указам“, падпісаным аднак-жа абавязкова і прэм'ерам. Тады, пасьля роспуску, не пазьней, як праз 90 дзён, павінны адбыцца новыя выбары.

Найцікаўней у гэтым праекце—дэцыдуючая роля Сэнату, які рэакцыя лічыць сваей крэпасьцю, але які ня толькі ўся лявіца, але навет пястоўцы—лічаць зусім непатрэбнай, калі ня шкоднай, установай.

### Зьвярнуліся па ратунак да... Лігі Народаў.

З Варшавы нам пішуць, што там ходзяць чуткі, быццам кіруючыя Польшчай колы, адчаяўшыся дарэшты ў магчымасьці знайсьці выхад з няўхільнага фінансавага банкруцтва краю, здэцыдаваліся на капітуляцыю: пайшлі прасіць дапамогі ў Лігі Народаў, як гэта зрабіў пасьля вайны цэлы рад дзяржаў—Аўстрыя, Вэнгрыя і інш.

Нядаўна аб гэтым адзіным астаўшымся выхадзе—на шляху буржуазнай „санацыі“ — пісаў ў кракаўскім „Часе“ адзін з найвыдатнтйшых польскіх эканамістаў праф. Кшыжановскі, станоўча радзючы варшаўскім палітыкам, каб адкінуўшы ўсялякія „моцарствовыя пыхі“, прасілі заграніцай апошняга ратунку, пакуль яшчэ могуць даць. Бо пасьля будзе ўжо запозна.

Мы ведаем, што Англія ды Амэрыка даўно радзілі Польшчы падлячыцца ў Жэнеўскай санаторыі для „неабмяжаваных сувэрэнаў“. Ведаем і тое, што на апошнія звароты мін. Зьдзеховскага, як калісьці і Грабскага, — за пазыкай, — як Англія так і Амэрыка паўтарылі: „добра, грошы дамо, толькі прышлем сваіх людзей, каб камандавалі ды сачылі,—на што і як будуць расходавацца гэныя грошы. Бо ў вас — замала розуму, дый — зашмат зладзеяў“. Англійскія банкіры заявілі ясна, што бяз урадавай гарантыі яны кідаць грошы ў бяздонную польскую бочку ня будуць. А англійскі ўрад дасьць гэтую гарантыю толькі пад варункам—агульнага і поўнага кантролю ўсей польскай—як унутранай, так і вонкавай палітыкі з боку Лігі Народаў.

Калі праўда тое, што кажуць у Варшаве, дык тады ўся так нашумеўшая справа аб прэтэнсіях Польшчы да Лігі Народаў вырашаецца вельмі проста: „сталае мейсца“ для Польшчы, як кліента-банкрута, будзе забясьпечана надоўга.

### Зьезд польскіх вольнадумцаў.

21-га лютага адбыўся ў Варшаве зьезд польскіх вольнадумцаў. Зьезд разработаў дакладна праграму. Вось галоўныя пункты яе.

„Таварыства польскіх вольнадумцаў сваей найважнейшай задачай уважае барацьбу з клерыкалізмам, усякіх вызнаньняў, які ёсьць магутнай падставай пананаваньня капіталу і служыць аружжам дзеля ўтрыманьня працуючых мас у духовай, эканамічнай і палітычнай няволі.

Мэта гэтай барацьбы: поўная сьвецкасьць грамадзкага жыцьця, каторая можа быць асягнена толькі шляхам вызвольнай барацьбы сялянскіх і работніцкіх мас.

# З Сойму.

### Паседжаньне 26 красавіка.

На гэтым паседжаньні Сойму адбылося першае выступленьне апазыцыі проці ўрад п. Скшыньскага, існуючага зусім нязгодна з парляманцкімі звычаямі.

Першы прамаўляў ад імя ППС пас. **Марэк**, які паўтарыў аб урадзе пэпэзсаўска-эндэцкае кааліцыі акурат усё тое, што аб ім пісала наша газэта, дый уся опозыцыйная прэса наагул. Высьцябаўшы гэтак сваю ўласную партыю, якая гэтулькі месяцаў памагала буржуазіі баламуціць працоўных, ды прыняла ўчасьце ў „дараваньні заможным клясам 600 міліёнаў злотых маёнтковага падатку“,—пас. Марэк запрапанаваў **адмовіць у асыгноўцы на рукі ўраду п. Скшыньскага народных грошы** на дзяржаўныя выдаткі на месяцы май і чэрвень.

Проці зацьвярджаньня вымаганае ўрадам асыгноўкі грошы выступалі прадстаўнікі „Хлопскае Партыі“, камуністаў, „Вызваленьня“, „Незалежнае Хлопскае Партыі“ і нацыянальных меншасьцяў—беларусаў, украінцаў і жыдоў. Асабліва ўражаньне на ўрад зрабіла выступленьне жыдоў, якія ад пачатку стварэньня ўраду п. Скшыньскага ўвесь час падтрымлівалі ўрадавую палітыку.

Аднак, правыя партыі, якія адны толькі і асталіся вернымі „свайму“ ўраду, пры галасаваньні перамаглі апазыцыю: **большасьцяй 200 галасоў проці 156 галасоў нац. меншасьцяў і лявіцы грошы, вымаганыя ўрадам п. Скшыньскага, асыгнаваны.**

Этапамі ў гэтай барацьбе зьяўляецца:

a) Увядзеньне бязверных урадаў цывільнага стану;

b) Аддзяленьне царквы і касьцёла ад дзяржавы;

c) Школа запраўды сьвецкая, без навукі рэлігіі і вызнанёвых абмежаваньняў з прызнаньнем выкладовай мовы нацыянальных меншасьцяў.

Таварыства вольнадумцаў выступае проці гвалтаў нац грамадзкай свабодай і дамагаецца:

1) Свабоды прэсы, таварыстваў і сходаў;

2) Агульнай амнэстыі дзеля так зв. палітычных „праступнікаў“;

3) Скасаваньня кары сьмерці і даразных судоў;

4) Поўнага раўнапраўства (палітычнага, гаспадарчага і нацыянальнага) нацыянальных меншасьцяў“.

Таварыства польскіх вольнадумцаў, каторае данядаўна было яшчэ зусім нявыразным, ад часу апошняга зьезду вырабіла сабе ясную плятформу і думае распачаць шырокую дзеяльнасьць сярод работнікаў і сялян.

### Як адбываецца рэдукцыя.

„Kurjr Czerwony“ падае гэткі факт: у Банку Гандлёвым зрэдукавана 900 працаўнікоў, але не зачэплена 8 дырэктароў і 24 пракурэнтаў. Панове дырэктары перад сьвятам выасыгнавалі сабе дадаткова месячную пэнсію...

Выкідаюць галадамораў, а сытым яшчэ дадаюць.

### Пратэсты інвалідаў.

Па ўсей Польшчы адбываюцца мітынгі пратэсту інвалідаў і пэнсіянераў, якіх польская буржуазія пастанавіла пазбавіць значнай часткі іх запамогаў.

### Праступнасьць у войску і флёце.

13-га красавіка пачалася ў Варшаўскім цывільным судзе няменш галосная, як працэс п. Ліндэ, справа аб вялікіх надужыцьцях палкоўніка Заплатыньскага, палк. Шарэцкага, Фукса і інш. — пры звальненьні ад службы ў войску.

Галоўны абвінавачаны — доктар Заплатыньскі—браў хабары, палк. Шарэцкі ведаў ды маўчаў, а каля

---

багатых пакоях, ён апынуўся ў паўцёмнай пустой хаце, у якой стаяў толькі тапчан і некалькі замаскаваных людзей! Не пасьпеў доктар крыкнуць, як ужо ляжаў на тапчане -- бяз ніжняе часьці вопраткі, крэпка прывязаны. Адзін з прысутных, іграючы роль самога Міхайлова пры сячэньні дэмонстрантаў, трымаў яго за пульс, а другія пачалі балюча яго сеч... Ад часу да часу зварачаліся да „доктара“, і той, палічыўшы пульс, важна паўтараў словы Міхайлава: „Выдержит! Можно еще!“...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прайшло дзесяць лет. Настаў гістарычны 1915 год. Ад расейскае ўлады астаўся ў Вільні толькі адзін успамін. Места было занята другой—роўна чужой яму ўладай: нямецкімі окупантамі.

Окупанцкая ўлада зразу-ж вельмі варожа аднясласа да ўсялякіх работніцкіх выступленьняў. Дык і на найбліжэйшае сьвяткаваньне 1 мая — у 1916 годзе—дазволу не далі. Але працоўныя Вільні не маглі маўчаць у гэты дзень. У горадзе заралася ад розных маёвых адозваў рэвалюцыйных партыяў. Выступілі і беларусы.

У тым часе ў Вільні беларускія работнікі і працоўная інтэлігенцыя былі стварылі моцную і дужа ўплывовую арганізацыю, скромна называўшую сябе „Беларуская Социял-Дэмакратычная Работніцкая Група“. Да лічбы закладчыкаў яе належалі: Язэп Ліцкевіч, Язэп Туркевіч, Язэп Салавей, Вансовіч—прадстаўнікі работнікаў, „Цётка“ (Алёзія Кейрысовая) і Іван і Антон Луцкевічы — прадстаўнікі зусім нячысьленае ў той час у Вільні групы радыкальнае працоўнае інтэлігенцыі. Групе гэтай выпала на долю іграць кіраўнічую роль у-ва ўсім беларускім грамадзкім жыцьці часоў нямецкае окупацыі.

Вось-жа „Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Работніцкая Група“ выпусьціла на 1-га мая 1916 году гэткую праклямацыю—цяпер бібліяграфічную ўжо рэдкасьць. *) Падаем яе зьмест з увагі на тое, што ён дужа характэрны для тагочасных беларускіх настрояў.

**Працавітая бедната ўсіх краёў злучайся!**

**ТАВАРЫШЫ!** Сягоньня, 1 мая, пролетарыят усяго сьвету сьвяткуе дзень агульнаработніцкага сьвята—**сьвята працы**. У згодлівым парыве да вызваленьня працоўнага народу з путаў, у якіх дзержыць яго капітал і пакорныя ўласьці капіталу правіцельствы, работнікі ўсіх краеў і народаў у гэты дзень яднаюцца і запрысягаюць сабе ўзаемна саюз і братнюю помач дзеля барацьбы з супольнымі ворагамі.

Таварышы! У гэткі дзень ня можам маўчаць і мы, сьвядомыя работнікі беларусы, бо няволя і гнібеньне, якое мы дагэтуль цярпелі, перайшлі меру мук рабочага народу ўсіх іншых краёў. Бо творчыя сілы нашага краю скавалі чужынцы, і сыны яго прымушаны дзеля хлеба выбірацца ўпрочкі. Бо беларускі народ — тыя міліёны работнікаў і сялян, што сваімі рукамі твораць багацьце старонкі, — жыве ня толькі ў эканамічным, але і ў духовым рабстве ў чужой нам і нашаму краю буржуазіі, якая цяпер—у мамэнт, калі да нас даходзіць першы прамень надзеі на Волю,—ужо куе для нас новыя путы і здрадліва прадае нашу Бацькаўшчыну цалком і часьцямі.

Далучаючы сягоньня свой голас да агульнага жаданьня работнікаў усяго сьвету: 8-гадзіннага рабочага дня, павышэньня заработнае платы, забясьпечаньня на магчымасьць жыць у прыпадку ўтраты здольнасьці да працы, старасьці, безрабоцьця, а дзецям нашым—права на асьвету на кошт гаспадарства, дабіваючыся для ўсей працавітай беднаты эканамічнага, палітычнага і духовага вызваленьня, — мы, сьвядомыя работнікі беларусы, голасна трэбуем незалежнасьці для нашага краю—для ўсей нашай Беларусі і Літвы—на дэмакратычных асновах, забясьпечаных устаноўчым соймам у Вільні, выбраным агульнай, роўнай, простай і тайнай падачай галасоў.

Няхай жыве сьвята 1 мая!
Няхай жыве міжнародная еднасьць работнікаў!
Няхай жыве вольная Беларусь і Літва!
Няхай жыве мір і воля народаў!

**Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Работніцкая Група**

Немцы пільна шукалі, дзе і кім магла быць надрукавана гэтая адозва. Але знайсьці „вінавайцаў“ не ўдалося...

Падобныя ж адозвы выпусьцілі жыдоўскія, польскія і літоўскія работнікі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прайшло йзноў дзесяць гадоў. Ад нямецкае ўлады не асталося сьледу. Настала ўлада Польшчы.

Але працоўныя места Вільні асталіся тыя самыя. Настроі ў іх пайшлі далей у кірунку ўсё больш і больш левым. Сьвяткаваньне 1-га мая ў апошнія гады найлепш аб гэтым гавора...

Але гэта помняць ужо ўсе! І старому віленцу, пішучы свае ўспаміны, на іх спыняцца няма патрэбы...

**Стары віленец.**

*) Праклямацыя была надрукавана лацінскімі літэрамі, з якіх паводле орыгіналу перапісана тут на „гражданку“.

...х круціліся нейкія драбнейшыя „фуксы“ (панямецку значыць—ліс), якія былі „пасрэднікамі“ ў гэтай акцыі.

Цікава перадусім, чаму-ж усе гэтыя, здаецца, ваенныя—бо-ж палкоўнікі—судзяцца не ў ваенным судзе, але ў цывільным? „Kur. Poran.“ раскрывае гэтую тайну: аказываецца, што палкоўнік доктар Заплатыньскі „цешыўся сымпатыяй... ваеннага мін. Сікорскага“. Дык той загадаў ваеннаму пракурору, каб сфармуляваў абвінавачаньне так, каб можна было аддаць справу ў цывільны суд, які наагул судзіць лагадней, як вайсковы.

У пачатку траўня рыхтуецца суд у справе вялізарных крадзежаў у... польскай марынарцы (флёце). Здавалася-б: які там гэны польскі флёт? А вось і тут паны польскія „командоры“ ды капітаны ўзялі сваё. Зладзейства — больш, як таго „флёту“! Адзін толькі быў „адмірал“, дый і той папаўся. „Kur. Poran.“ піша, што сьледчы матар'ял — такі аграмадны, што для здабыцьця і ўпарадкаваньня яго патрэбны месяцы.

Тая-ж газэта дадае вельмі цікавыя падробнасьці гэтай галоснай справы. З нацужыцьцямі п. п. „командораў“ зьвязаны і тут, як у справе „Гломбінскага-Сакалоўскага“, цэлы рад вельмі ўплывовых паслоў Сойму. Але найцікаўней, што ўся справа казнакрадзтва, раскрытая пры тым-жа міністры Сікорскім, больш году затрымлівалася па яго загаду. І толькі, калі ён паляцеў, справу выкапалі ізноў, а мін. Жэлігоўскі загадаў пракуратуры чым хутчэй пусьціць у ход.

19-га красавіка абвешчаны прысуд ваеннага суда ў справе зладзействаў у вайсковай інтэндантуры ў Злочове. Маёр Гейслер пакараны 1 годам катаргі, паручнік Шчэпаньскі—6 месяцамі вастрогу, адзін харунжы—4 мес. турмы.

# Заграніцай.

## Радава-Нямецкі трактат.

**Урад ССРР падпісаў вельмі важную палітычную ўмову з Нямеччынай, скіраваную проці спроб Англіі стварыць проці-радавую коаліцыю.**

## Англійская правакацыя ў Індыі.

Баючыся горш сьмерці збудзіўшайся да самастойнага жыцьця Індыі, англійская ўлада спрытна выкарыстоўвае ўсё, што можа падзяліць ды пасварыць між сабой розныя групы насяленьня краю—ведама-ж, каб лягчэй панаваць над пабіўшымі адна адну часткамі насяленьня...

Гэтая подлая палітыка жываедаў-імпэрыялістаў толькі-што дала сваі крывавыя плады ў сталіцы Індыі Калькуце. Толькі-што даўно пад'юджваныя англійскімі правакатарамі фанатыкі-мусульмане і буддысты, сабраўшыся вялізарнымі таўпамі, кінуліся ў запраўдны бой... У выніку подла падрыхтрванай крывавай лазьні—каля сотні забітых, некалькі сотняў раненых... Дасягнута гэткім чынам мэта правакацыі: давясьці, што англійская паліцыя аднолькава патрэбна для мусульман, каб бараніць іх ад буддыстаў,—як і для буддыстаў, каб ахоўваць іх жыцьцё ад мусульман... А яшчэ нядаўна—ня было між імі ніякай сваркі ні варожасьці, але наадварот—было супольнае паразуменьне ў барацьбе — проці англійцаў... Зразумеюць хутка англійскія штучкі ў Індыі... Трэба, каб разумелі добра гэткія штучкі наагул і нашы беларусы.

## Паход фашыстаў на Афрыку.

Мусоліні езьдзіў у італіянскія валадзеньні ў Афрыцы, дзе багаславіў ваенную выправу на — далейшыя заваёвы... Гэта страшэнна занепакоіла Францыю, якой—дзеля яе слабасьці — пагражае вялікая небясьпека ад ваяўнічага настрою ў фашыстаўскай Італіі. Ідуць весткі аб пачаўшымся страшэнным зьнішчажэньні мяйсцовага насяленьня італьянскімі войскамі.

## Мірныя перагаворы з Абд-Эль Крымам.

З прычыны няўступчывасьці абедзьвюх старон, перагаворы між Абд' Эль Крымам і францýска-гішпанскім камандаваньнем перарваліся. Дэлегацыі зьвярнуліся да сваіх урадаў — за новымі паўнамоцтвамі.

# Работніцкае жыцьцё.

**Ліквідацыя прафэсіянальнага саюзу.** Акружны Суд у Варшаве разьвязаў на прошлым тыдні прафэсіянальны саюз мэталёўцаў і такароў. Адначасна і ліквідацыяй цэнтралі паручана замкнуць усе істнуючыя аддзелы гэтага саюзу. Прычынаю мае быць расшырэньне ўплываў камуністаў у саюзе.

**Работніцкія сходзіны могуць адбывацца толькі ў замкнёных лёкалях.** У зьвязку з „заўважаным раздражненьнем шырокіх работніцкіх мас“, Міністэрства Унутраньніх Спраў забараніла ўладам бясьпечнасьці выдаваць пазваленьня на сходзіны і мітынгі работнікаў пад адкрытым небам. Сходзіны работніцкія могуць адбывацца выключна ў замкнёных лёкалях. Ня ведама, як будзе гэта распараджэньне застасовывацца да ППС і НПР. Правадырам апошняй партыі за верную службу ў крытычны мамэнт буржуазія некалькі дзён таму назад ня толькі дала міністэрскія мейсцы, але абяцала рэкомпэнсаты, зьмерываючыя да „рэальнага ўзмацаваньня арганізацый НПР“.

**Адмова дазволу на сходзіны.** Камісарыят ураду на м. Вільню адмовіў дазволу на сходзіны, праектаваныя культуральнай сэкцыяй прафэсіянальных саюзаў саюзаў на суботу ў салі Крэнгеля. У адмове зазначана, што дазвол будзе выданы, але пасьля 1-га мая.

**Стан безрабоцьця ў Вільні і Варшаве.** Паводле данных „Państwowego Urzędu Pośrednictwa Pracy“ ў Варшаве агульны лік безработных ад 12 да 17./IV выносіў 17.700 асоб. Атрымала працу 683 асобы. Асталося на вуліцы 17 тысяч асоб.

У Вільні—5.219 безработных. У апошнім тыдні ўрад фундушаў для безработных прыйшоў з помаччу 383 асобам. Уставовых дапамог выдана 878 асобам. Асталась 4 тысячы.

**Перад першым маем.** У нядзелю адбыліся па цэлай Варшаве работніцкія сходзіны з прычыны 1 мая. Там, дзе верхаводзілі ППС, сходзіны мелі спакойны ход. Па сходзінах, скліканых незалежнай работніцкай партыяй, учасьнікі па вычарпаньню парадку дня ўтварылі паход і пяялі „Інтэрнацыянал“, выйшлі на вуліцу. Паліцыя разагнала паход, арыштоўваючы пры гэтым некалькі камуністаў.

**Арышты.** Паводле інфармацыяў „Słowa“, ад 21 да 25./IV. арыштаваны ў Польшчы 14 камуністаў ў зьвязку з прыгатаваньнямі да 1-га мая.

**Перамога шавецкіх работнікаў у Львове.** „Світло“ даносіць: на фабрыцы абуві „Мазага“, дзе працуе некалькі дзесяткаў работнікаў, уласьнік, лічучы на разьбіцьцё работніцкай еднасьці, дамагаўся зьнясеньня 8-мі гадзіннага дня працы і ўвядзеньня акордавай працы. Аднак ён пералічыўся. Работнікі даўно ўжо вычысьцілі з свайго прафэсіянальнага саюзу ўсе здрадніцкія элемэнты, звольніліся ад уплываў ППС. Выгалошана забастоўка і работнікі ня толькі дамагаліся адхіленьня акордавай працы, але падвышэньня заработкаў на 30 проц. Не знайшоўся ні адзін страйкалом і пасьля 3 дней забастоўкі фабрыкант адмовіўся ад дамаганьня акордавай працы ды яшчэ быў прымушаны падвысіць на 20 проц. заработную плату пры 8-мі гадзінным дні працы. Арганізованасьць львоўскіх шавецкіх работнікаў мусіць быць прыкладам для другіх.

**Пасьля Стрыйскіх падзей.** Як ведама, у м. Стрыю паліцыя стрэламі разагнала дэманстрацыю безработных перад магістратам. Забіта 8 асоб, ранена кільканаццаць. Сьледзтва сцьвердзіла, што за ўцякаючымі дэманстрантамі яшчэ некалькі мінут паліцыя страляла.

Камандант паліцыі, кіраваўшы гэтым нячуваным расстрэлам уцякаючых безработных, хаця наразе быў „zawieszony w czynnościach“ — цяпер узноў павернены да службы.

# ХРОНІКА.

**Суд над рэдактарам Шылам.** 11 чэрвеня сёл. году ў Акружным Судзе ў Вільні будзе разглядацца справа рэдактара Шылы.

Абвінавачваюць яго за прэсавыя справы паводле § 129 К. К.

Бароніць грам. Шылу адвакат п. Міцкевіч.

**Прыгавар у справе 93 камуністаў.** 23/IV а гадз. 11 агалошаны прыгавар, якім засуджываецца М. Эльштайна, Эльяша Гэнса, С. Іргінскага і Р. Мільлера, пасьля пазбаўленьня грамадзкіх правоў—першых трох—на 4 гады катаргі, а чацьвертага—на 3 гады.

Рэшта абвінавачаных засуджана ў крэпасьць з залічэньнем сьледчага арышту ў тым—на 4 гады І. Бэнгіса, Х. Шкляр, М. Гэнса, Г. Нэлькіна, А. Ліхтэнштайна і Н. Шогана; на 3 гады Ш. Попорца, І. Крызоўскую, Х. Хазанскага, Р. Здуньскаго, Л. Оршаньскага, або М. Лябока, Х. Вахта, І. Гомна, А. Гальпэр; на $2^1/_2$ гады Ш. Бэймса, М. Бэгака, Х. Шугель, Х. Гродзенскага, Н. Качэргінскую, Е. Офмана і Р. Гвіцман; на 2 гады А. Бэгана, Р. Зільбэрштайна, Х. Сьнічкоўну; на 1 год 6 месяцаў Б. Левін. З іншага артыкулу карнага кодэксу на 4 месяцы асуджаны Х. Насовіч, у каторага на кватэры адбываліся сходзіны камуністаў.

Толькі Э. Гофман, Р. Гвірман і Б. Левін выпушчаны на свабоду за каўцыю, рэшта проста з салі была адведзена ў турму.

Агулам апраўданы 51 абвінавачаны.

**Прыгавар у справе крыміналістаў — вышэйшых чыноўнікаў польскай паліцыі ў Вільні.** 26/IV а 2 гадзіне апэляцыйны суд аб'явіў свой прыгавар, якім былы надкамісар Павловіч апраўданы саўсім, былы камэндант мястовай паліцыі Толпыга—засуджаны на 6 месяцаў, але зложыўшы 200 зл. каўцыі выпушчаны на свабоду. Адносна Шольца, Рымкевіча і Кулакоўскага кара папярэдняя — ня зьменена, аднак-жа яны выпушчаны на волю пад залог.

Адносна І. Шнайдэра папярэдні засуд зацьверджаны, выкананьне кары адложана на працяг 2 гадоў.

**Скандальна, але — сымвалічна.** У варшаўскіх „палітычных колах“ выклікала страшэннае абурэньне тое, што Віленскі Зямельны Банк, выставіўшы на публічную прадажу—ліцытацыю за даўгі шмат маёнткаў розных збанкрутаваўшых зямляўласьнікаў, зьмясьціў у тым ліку і—18 маёнткаў, належачых да... Польскай Дзяржавы! Пасьля гучнай кампаніі ў абражанай эндэцкай прэсе сэнацкая скарбова-бюджэтная камісія — на прапазыцыю жыдоўскага сэнатара Шэрэшэўскага — пастанавіла патрэбаваць ад ураду — высьвятленьня скандалу...

**Завастрэньне спагону падаткаў.** Міністэрства Скарбу выдала новыя правілы сьцягіваньня незаплочаных падаткаў. Да экзэкуцыі будзе ўжыты цяпер, акрамя сэквэстатараў, пэрсанал скарбовых урадаў. Ліцытацыя мае адбывацца паводлуг гэткага парадку.

Перш-наперш эгзэкуцыі падлягаюць грошы і цэнныя паперы. У выпадку, калі гаспадар чакае на грошы, напр. ад прадажы ў кірмашны дзень,—эгзэкутары маюць права таксама пачакаць на іх і забраць. Затым будзе наложаны арышт на мэблі даўжніка. Ад арышту вольны: вопратка даўжніка, бялізна, пасьцель, начыньне, ложак, спажыўныя прадукты, дровы і г. д. (гэта значыць, што нельга браць кашулі і вопраткі, каторую мае гаспадар на сабе). Калі падатку не заплаціў муж—нельга арыштовываць адзежы жонкі Калі адзежа і мэблі не пакрыюць падатку—будзе накладывацца арышт на „неабавязкова патрэбныя“ машыны і інвэнтар („неабавязкова патрэбных“ селянін прынамся ня мае)...

Нельга накладываць арышт на прылады рамесьніка, але можна арыштаваць тавар, знаходзячыся ў яго.

Усе жалабы трэба кіраваць ня ў суд, а да дырэктара „Izby Skarbowej“.

**Падвышка паштовых аплат.** Згодна з новым распараджэньнем, на цэлым абшары польскай дзяржавы павышаны паштовыя аплаты. Мэта падвышаньня—помач безработным. Гэтак: a) ад кожнага краёвага пісьма, або паштовай карткі (звычайн., або рэкомэнд.), друку, пробак тавару, папераў гандлёвых — 1 грош. b) ад кожнай пасылкі (незалежна ад вагі, або вартасьці), ад кожнага „listu wartościowego“ (цэннага пісьма), ад кожнага пераводу і тэлеграмы—5 грош. c) ад кожнай размовы тэлефонам пры аплаце да 1 зл.—5 грош. вышэй—10 грошы.

**Тытун падаражэў.** Ад 26-га гэтага месяца на ўсе гатункі папірос, тытуну, цыгар — паднята цана на 20 проц.

**Афіцыяльны курс грошы на 26 красавіка.** Даляр — 9 зл. 71 гр. Залаты рубель — 5 зл. 40 грошы.

26. IV. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 10 зл. 25 грош.

# Карэспандэнцыі.

## Пасольскія мітынгі.

**Паставы.** У нас у Паставах даўно ўжо народ чакаў прыезду паслоў з Беларускай Грамады. У панядзелак 12 красавіка адбываўся тутака кірмаш. З вялікай радасьцю даведаліся сяляне, што прыехалі ўрэшце і да нас паслы Мятла і Тарашкевіч. Сабралася каля іх на рынку маса народу. Ведама адразу з'явілася і ўлада: прадстаўнікі староства і паліцыя. Апрача яўнай паліцыі ў мундзерах, шмат было пераадзетай і пропасьць розных тайнікаў. Але паслы не пабаяліся гаварыць усю праўду, аб усіх зьдзеках аб усіх крыўдах сялянна. А гаварылі так, што проста клалі сялянам у галаву, так што хапалі за сэрца. І казалі нашыя вяскоўцы вось так праўда, так як з намі жывуць!

Найбольш цікавіліся сяляне падаткамі, зямлёю і школай. Ад паслоў даведаліся мы, што на кожных 100 злотых падаткаў 10 злотых ідзе на войска, гэта значыць 10 працэнтаў. Ад паслоў мы даведаліся, што паны абшарнікі і фабрыканты ня хочуць заплаціць 740 міліёнаў маёнтковага падатку пасьля таго, як сяляне паплацілі ўсё, як сялянам ня раз прышлося прадаць апошнюю кароўку.

Гаварылі паслы аб зямлі, але і бяз іх мы добра ведаем, што пры цяперашніх парадках зямлі не дастанэм,—хіба што адныя асаднікі. Адно цікавае даведаліся, што цяперашні куртаты зямельны закон ды й той не выпаўняецца. Па закону выходзе што кожны год 200 тысяч гэктараў дворнай зямлі мае быць распарцэлявана, а цяперашні ўрад вызначыў на гэты год усяго 50 тысяч гэктараў. Вось як бароняць пэ-пэ-эсы сялянскую справу, седзючы на міністэрскіх крэслах побач з панамі ды пястоўскімі падпанкамі і іншымі прыхвастнямі буржуазіі!

Цікава гаварыў пасол Мятла аб школе. Ён прыпомніў, як посьле выданьня „языковых законаў“ блізка ўсе ваколічныя гміны падалі заявы на родную беларускую школу, а тымчасам як нас вучаць, запытаўся.—Вучаць панямецку, — хорам адказаў народ.

Урэшце сход прыняў пастановы, дамагаючыся зьменшаньня падаткаў, увядзеньня адзінага падатку, скарочаньня ваеннай службы, зямлі бяз выкупу для мяйсцовага сялянства, роднай школы, поўнай амністыі для палітычных.

Сабраўшыяся шчыра і горача дзякавалі паслом за жывое слова і прасілі залажыць тут арганізацыю Сялянска-Работніцкай Грамады.

Да самага вечара прымалі паслы народ на сваей кватэры, даючы рады і прымаючы скаргі і заявы.

Тутэйшае сялянства ідзе за Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой.

**Пастаўскі.**

**Хочаце папрavіць дабрабыт сваей газэты „Беларуская Справа“, дык безадкладна зьвярніце ёй доўг, калі хто не заплаціў яшчэ!**

Рэдактар-Выдавец: Ал. Вільчыцкі.

Друкарня Н Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22

* * *

Пры праведзеньні камасацыі на нашых вёсках урад дбае толькі аб тым, каб зямлю перакроіць з шнуроў у адзін кусок і аддаць яго селяніну. Падбаць-жа, каб на тым куску была, як сьлед, заведзена гаспадарка, каб далей селянін устаў на ногі і вырваўся з тэй с.-гаспадарчай цемры ён ня дбае. Тут мусіма прызнаць, што да вайны куды лепшыя да сялян былі адносіны царскага ўраду, праводзячага Сталыпінскую рэформу. Тагочасныя землеўстройствы лепш разумелі патрэбы дробнага сялянства і стараліся яму даць фаховую помач г. т.-зв. аграномаў і другіх спэцыялістаў. Цяпер таго нямаш. Грошы, якія ўрад кідае на помач земляробу т. з Крэсаў да таго малыя, што і сьмех сказаць, тым болей яны не прадукцыўна трацяцца, бо дзеляцца паміж розных установаў, а тыя найчасьцей іх ужываюць на правядзеньне сваіх палітычных пляна ў і на ўтрыманьне ўселякіх палітыкмахэраў, а не фахоўцаў.

Есьць у нас і розныя „Кулкі“ і „Товажыствы“, аднак 95 проц. іх работы зводзяцца на пісаньне паперкаў і ўтрыманьне штатаў канцэлярыстаў. У вёсках працуюць і то рэдка аграномы соймікаў, калі ў іх сяляне дадумаліся ўстанавіць гэтакія штаты. Тыя аграномы, калі толькі гэтыя людзі тутэйшыя, усю працу дзеля паляпшэньня долі земляроба і вядуць ды няраз скардзяцца, што часта выяжджаць на вёскі ня могуць дзеля таго, што іх закідаюць розныя ўжэнды і кіраўніцтвы папяровай работай. А пры правядзеньні камасацыі помач аграномаў вёскам нашым вельмі і вельмі патрэбныя. Агроном такі павінен ужо разам з землямерам укладаць камасацыйны плян, далей павінен у працягу камасацыйных работ вясьці з сялянамі гутаркі, як трэба загаспадараваць свае новыя ўчасткі, як пабудавацца і г. п. і пасьля ён-жа павінен улажыць для новых гаспадарак севазвароты. Добра ведама, што добра ўложаныя севазвароты будуць вехамі ў вызначэньні належных кірункаў вытворчасьці с.-гаспадарак.

Ня лёгка будзе існаці гэта работа працаўнікам-аграномам, прыдзецца ім прабіваць лбом, як кажуць. сьцены, але ўсеж-такі знойдзецца з пару рупнейшых гаспадароў-культурнікаў, што аграномаў паслухаюць і тады мала па малу ўся вёска пойдзе іх сьлядамі.

І вось трэба нам усім, дзе толькі можам ў валасьцях на сходах, у сойміках на зьездах, ды на паседжаньнях Сойму дабівацца ўвядзеньня фаховых с.-гаспадарскіх працаўнікоў у вёскі, дзеля рэальнай помачы гаспадару, тым болей у вёскі скамасованныя, бо інакш без агранамічнай помачы мы сяляне яшчэ на некалькі дзесяткаў гадоў спозьнім сваё эканамічнае адраджэньне, а з ім і свой дабрабыт. Хай агроном будзе так неабходным у вёсцы, як лекар, вэтэрынар, ды аптэкар.

*Г. Рэго.*

# Здабываньне зялёнага корму ў гаспадарцы.

Кожны гаспадар запасае корм на зіму. Дзеля гэтага ён сее канюшыну, павялічвае плошчу бульбы, а іншы сее і корняплоды.

Нажаль, гаспадары мала забясьпечваюць гаспадарку зяленым кормам на лета.

А між тым, у большасьці мясцовасьцяй жывёла і летам патрабуе корму з рук. Добрага выгану ў нас амаль зусім няма, плошча пад імі што-год зьмяншаецца, ды й трава мала спажыўная.

Селянін бачыць, што скаціна не даядае, каровы збаўляюць удоі малака. Трэба паклапаціцца, каб забясьпечыць жывёлу зялёным кормам і летам. Рабіць гэта абавязкова патрэбна.

Добрым і найбольш вядомым зялёным кормам зьяўляецца мяшанка яравой выкі з аўсом. Мяшанку гэту можна сеяць у папары. Глеба пад яе рыхтуецца з восені Пасьля ўборкі аўсу, за якім звычайна ідзе папар, поле адразу няглыбока аруць і да звычайнага ворыва ўвосень яшчэ некалькі раз барануюць, каб ачысьціць поле ад травы. Калі ёсьць гной, дык яго возяць і заворваюць ўвосень.

Рана вясной пасьля баранаваньня, а на цяжкіх глiністых глебах і пасьля другога ворыва, высяваецца аўсяна-выкавая мяшанка.

Але, звычайна, гаспадаркі ўвосень гною ня маюць і тады выработак поля пад мяшанку робіцца гэтак. Увосень поле арэцца, узімку вывозіцца гной, рана вясною яго раськідваюць і заворваюць.

Засеў робіцца мажліва раней, каб і корм мець, як найраней. Для мяшанкі бярэцца 8 пуд. выкі і 4 пуды аўсу на 1 дзесяц.

Пры ручным засеву выка і авёс высяваюцца асобна, бо калі іх зьмяшаць, то засеў будзе няроўны.

Падкашваючы ў меру патрэбы мяшанку, гаспадар забесьпячае жывёлу добрым кормам да паловы ліпеня. К гэтаму часу жывёла ўжо ідзе на сьвежую пашу па сенажаці і іржышчу.

А палове ліпеня застаўшаяся частка мяшанкі здымаецца і поле арэцца пад засеў жыта. У некаторых выпадках аўсяна-выкавай мяшанкаю можна карыстацца і пазьней, але трэба памятаць, што поле арэцца не пазьней, як за 2—3 тыдні да засеву жыта.

Для таго, каб забясьпечыць гаспадарку зялёным кормам і на восень, можна зараз-жа пасьля жніва жыта засяваць яшчэ аўсяна-выкавую мяшанку. Праз $1^1/_2$ месяцы яе можна ўжо падкашваць і карміць жывёлу.

Таксама можна вясной у зімовае жыта падсяваць сэрадэлю. Пасьля ўборкі збожжа яна дасьць зялёны корм праз $1—1^1/_2$ месяцы. Высяваюць сэрадэлю рана, у часе баранаваньня зімовага збожжа. Насеньня патрэбна каля 2 п. на 1 дзес.

Дзеля таго-ж, каб мець зялёны корм яшчэ раней, раяць з восені ў папары сеяць мяшанку зімовага жыта з зімовай выкаю. Зімовая выка вырастае хутчэй яравой і ўжо к часу, калі жыта пачынае выплываць, такая мяшанка дае добры корм.

Селянін *С. Сялюкін.*

## Лён-даўгунец.

У нас на Беларусі вельмі мала ўвагі зьвяртаюць на лён-даўгунец, а між тым ён мае вялікае значэньне для нашых гаспадарак.

У паўночна-заходняй частцы Беларусі і бліжэйшых да яе суседніх раёнах лён-даўгунец зьяўляецца вельмі каштоўнай культурай. Попыт на семя і валакно зараз вялікі і цана на іх стаіць даволі высокая, ня гледзячы на тое, што наша семя і валакно на замежных рынках расцэньваюцца танна, бо якасьць іх ня вельмі высокая.

Валакно лічыцца добрым тады, калі яно аднастайнае, г. зн. аднолькавае даўжыні, афарбоўкі і бляску. Толькі добрым насеньнем можна дабіцца атрыманьня такога валакна. Самае галоўнае, што каштоўна ў валакне, гэта—найбольшая даўжыня і найменшая гальлістасьць сьцябла. Лён-даўгунец дае такое валакно. Лён-даўгунец можна вывесьці пасевам адборнага насеньня. Патрэбна толькі адбіраць насеньне самага буйнога і самага доўгага лёну.

З аднаго лёну добрае семя і добрае валакно адначасна атрымаць ня можна. Пры пасеве лёну на насеньне валакно ня выйдзе добрым, бо выбіраецца насенны лён пасьля поўнага пасьпяваньня, калі сьцябло падсохне і пагрубее, а лепшае валакно дае крышку зеленаваты лён. Дачакаўшы поўнага высьпяваньня лёну ў полі, трэба яго выбіраць, пры чым тут-жа адбіраць самыя высокія сьцяблiны і вязаць іх асобна ў снапы. Пасьля, даўшы гэтым снапом добра выстаяць,—абмалаціць, правеяць і прачысьціць на спэцыяльнай трашчотцы. Яна добра аддзяляе семя ад сарнякоў.

Сеюць лён-даўгунец, як і просты наш лён, пасьля траў, пры шматпольных севазваротах у такім парадку: 1) папар, 2) азіміна, 3) травы, 4) травы, 5) травы і 6) лён. Або пасьля азіміны сеюць ярыну, у якую падсяваюцца травы, а затым лён.

Вучастак пад лён павінен быць ачышчаны ад сарнякоў і галоўным чынам ад павітухі (повіліка, Cuscuta L.), бо яна вельмі шкодзіць лёну.

Посьпех арганізацыі ільнянай насеннай гаспадаркі цэлых вёсак залежыць ад аб'яднананьня і ўзгодненасьці сялян паміж сабою і ад дапамогі, якую ім можа даць дзяржава выдачай выпрабаванага семя, найбольш дастасаванага да ўмоў данай мясцовасьці.

Паасобным гаспадаркам лягчэй вывесьці добрае насеньне шляхам засеву некалькіх сартоў семяні і выбару з іх таго, якое дасьць найлепшыя вынікі.

*Агр. Р. Стэльмахаў.*

## Штучныя гнаі.

(З часопісі „Сільскій Сьвіт")
(пераклаў з украінскага Т. Куніцкі).

Кожны пасеў забірае з раллі пэўную колькасьць складовых часьцін, якія служылі б расьлінам, як пажыва. З гэтых часьцін найбольш азоту, фосфаравага квасу і паташу—спажываюць расьліны, і іх

заўсёды бракуе ў грунтах. Большую частку пажыўных часьцін зварачываем назад зямлі з хлеўным гноем; вельмі шмат вывозім іх за межы сваей гаспадаркі. Калі прадаем прадукты нашай гаспадаркі, як мяса, малако, то ў першай чарзе прападаюць для нашай ральлі азот і фосфаравы квас; паташ, які галоўна знаходзіцца ў бадылінах расьлін, у сене, саломе, бульбе, або ў буракох, моркве, бручцы, пераважна вяртаецца з гноем на ральлю. Звычайна ўжо ў 2—3-ім годзе працы на ральлі бракуе ёй складовых часьцін гною на пажыву расьлінам і дзеля таго мусім ужываць для яе штучныя гнаі. Штучныя гнаі маюць звычайна толькі адну найважнейшую часьціну для пажывы расьліны ці то азот, ці фосфаравы квас, паташ, або вапна. Яны ўплываюць карысна толькі тады, калі бракуе гэтай часьціны і калі расьлінам яна патрэбна.

На ўсіх землях найвыразьней выступаець брак азоту. Крыніцы, з якіх расьліны бяруць азот, вельмі скупыя, так што звычайна больш расходуецца азоту, чым яго прыбывае. Ральля атрымоўвае азот з хлеўнага гною і забірае яго з паветра пры помачы бактэрыяў, якія жывуць на карэньнях матыльковых расьлін. Азот у ральлі выступае пераважна ў арганічнай форме, гэтак у перагноях і таму чарназёмы і тарфовішчы давозу азоту найчасьцей не патрабуюць. Звычайна й фосфаравага квасу расьліна спажывае больш, чым яго вытвараецца ў ральлі. У ральлі яго ня вельмі многа, а пры гэтым яшчэ выступае ў форме трудна распушчанай. З хлеўным гноем толькі малая частка фосфару зварачваецца ральлі, бо ён галоўным чынам знаходзіцца ў зярнятах, мясе, малаце, а гэтыя прадукты пераважна ідуць у горад на прадажу.

Паташ у большасьці вяртаецца на ральлю з саломай, сенам, бульбай, буракамі, бручкай, а ў прамысловых гаспадарках з брагай, бурачанай жмыхай—пэўная рэч, прайшоўшыя і ператраўленыя праз кармовы праход скаціны. Давоз паташу ёсьць патрэбным на пескаватых і тарфяністых землях, якія ў прыродзе вельмі бедныя паташом.

Усе штучныя гнаі могуць карысна ўплываць толькі тады, калі ральля маець у сабе патрэбную колькасьць вапны. Вапна лёгка распускаецца ў вадзе і дажджавыя воды выпаласківаюць значную колькасьць вапны. Дзеля таго мусім ральлю час ад часу ўгнойваць вапнай, ня толькі каб прыдбаць пажывы расьлінам, але перадусім, каб дадаць вельмі важнай пажыўнай часткі, якая маець вялізарны ўплыў як на фізычныя, так і хімічныя свойствы—зямлі.

Ураджай з поля залежыць не ад пераважаючай колькасьці якога колечы гною, але ад таго гною, якога ў ральлі найменш. Каб ня выкідаць грошы ў форме дарагіх штучных гнаёў наасьлеп у ральлю, трэба пераканацца, якіх спажыўных частак ральля мае найменш. Гэтага дасягнем, калі будзем закладаць дасьледныя палі, якія, абсеяныя рознымі штучнымі гнаямі, або рознымі іх павязаньнямі пакажуць запраўднасьць росту пасеяннай расьліны.

Штучныя гнаі ўплываюць найменш на землях з пэўнай колькасьцяй перагною, з добрымі фізычнымі здольнасьцямі і пры спрыяючых кліматычных абставінах. Зьдзічэўшыя і мокрыя землі на штучныя гнаі рэагуюць кепска.

Што праўда, штучныя гнаі збагачаюць ральлю ў паасобныя пажыўныя часьціны і павялічваюць збор з поля, але яны не дадаюць ральлі перагною і тым самым, за выняткам вапны, не папраўляюць

фізычнай здольнасьці ральлі. Дзеля таго даўжэйшае ўжываньне штучных гнаёў, без дадатку хляўнога гною, або зялёных гнаёў, ня ўдасца карысна правясьці.

## АЗОТНЫЯ ГНАІ.

**Чылійская сялітра.** На заходнім узбярэжжы Паўдзённай Амэрыкі, амаль пазбаўленай дажджоў, знаходзяцца паклады слаўнай Чылійскай сялітры. Гэта — павязаньне азотнага квасу з содам ($N_6 NO_3$), якога адзін цэнтнар (100 кгр.) мае 95—97 проц., а чыстага азоту 15½ — 16 проц. Гэта ёсьць белая соль, якая лёгка распускаецца ў вадзе і вельмі лапчыва прыцягвае вільгаць з паветра, або коратка кажучы, вельмі гіграскапічная. Дзеля таго сялітру трудна пераховываць, бо, вільгатнеючы, зьбіваецца ў груды, якія перад высеўкай абавязкова трэба патаўчы. Сялітра гэта павязаньне, якое расьліны найлягчэй спажываюць, і таму сялітра ўплывае на расьліну шмат хутчэй, чым іншыя азотныя гнаі.

Дзеля таго, што зямля не затрымовывае сялітры, яна можа, як водны рашчын, свабодна разьмяшчацца ў зямлі. З гэтай прычыны сялітру ўжываем, як галоўнае ўгнаеньне, больш даем яе ўжо ў часе росту расьліны.

Праз тое, што зямля не затрымоўвае сялітры, як ўжо было сказана, дажджы выпаласківаюць яе ў глыбейшыя слаі зямлі раней, чым карэнчыкі маглі-б ей пакарыстацца і яна бескарысна прападае для расьліны. Дзеля таго не належыць спадзявацца на даўжэйшы ўплыў сялітры. Галоўна таму на лёгкіх землях ужываецца яна ў малых колькасьцях, затое некалькі разоў у працягу вясны. Сялітра можа распусьціць у зямлі тыя гнаі, якія затрымала зямля, як фосфаравы квас і паташ, і гэткім чынам змушае расьліну выкарыстаць і гэтыя часьціны. Але трэба так-жа заглядацца і на другі бок справы, памятаючы, што аднабокае моцнае ўгнаеньне ральлі сялітрай прыводзіць да зьбяссіленьня і аслабленьня расьліны.

Калі хочым уратаваць слабейшыя засевы, дык сялітра тут робіць цуды. Расьліны зараз пасьля яе рассеяньня набіраюць цёмназялёнага колеру і пачынаюць буйнець. Сялітра падносіць працэнтнасьць бялка ў зярнятах.

Таму, што сялітра вельмі хутка і моцна ўплывае на расьліны, ужываецца яна пераважна вясной. Раньні ўжытак сялітры пабуджае расьліны да буйнасьці і тым самым прадаўжае час іх росту. Калі-ж ужыць сялітру запозна, або ў надмернай колькасьці, дык расьліны выпускаюць новыя расткі, а праз гэта позна й няроўна дасьпяваюць. Пара, у якой ужываецца сялітра, вельмі розныя. На азіміну рассеяць сялітру трэба проста на рунь, лепш найранейшай вясной, як толькі азіміна пачне расьці. Калі заходзіць патрэба сялітраваньня, можна паўтарыць, але асьцерагацца, каб не спазьніцца. Рабіць гэта можна пакуль збожына не перастала буйнець. З ярынаў—авёс і яравая пшаніца могуць спажываць найбольш сялітры. Ячмень сялітру ня вельмі добра зносіць, дык належыць падсяваць яе да часу, пакуль расьліна гэта не атрымаець 3-х лісткоў. Таксама пад бульбу трэба даваць сялітру зараньня, каб не апазьніць завязываньне бульбінаў.

Найлепш выкарыстоўваюць сялітру буракі, але трэба ўмела яе ўжываць. Найлепш падзяліць цэлую колькасьць сялітры, прызначанай

пад буракі, на 2—3 часткі і першую даць адразу, як узойдуць расьліны, а апошнюю ў чэрвені перад астатняй апалоўкай буракоў.

Згушчаны рашчын сялітры, калі пападзе на вільготныя ткані расьлін, нішчыць іх зусім. Дзеля гэтага, сялітру рассяваюць толькі пад час сухой пагоды на зусім абсохшыя расьліны. Найлепш рассяваць сялітру зьмешаную з зямлёй. Сялітра — гэта атрута, а таму нельга пасьвіць скаціну на сьвежа сялітраваных пасевах і наагул уважаць, каб сялітра ці мяшкі ад яе ня стыкаліся з пашай. На глінястых землях значнейшая колькасьць сялітры творыць скарупу.

(Далей будзе).

Агранам *А. Берзін.*

# Як сеяць лубін на зялёнае ўгнаеньне.

На Беларусі пры малым ліку скаціны бяз лубіна не магчыма мець добрыя ўраджаі. Але сеяць лубін трэба ўмеючы, бо ад гэтага залежыць добры ўраджай зялёнае масы. Заўважым, што **лубін розьніцца ад збожжавах расьлін тым, што карэньні яго йдуць глыбока ў зямлю, а з паветра ён карыстаецца каштоўным азотам.** Вось чаму і на благім полі, дзе збожжа расьці ня можа, лубін без усялякага ўгнаеньня дае добры ўраждай. **На глебах** балотных і вільгатных лубін не ўдаецца. Па досьледам Горацкае с.-г. дасьледчае станцыі на **лёгкіх і шчыльных суглінках зялёная маса лубіну дасягала 3000 пуд. з дзес.**

Найлепшай глебай **дзеля** лубіна лічыцца пухлянае і цёплае пескавое поле, але на зусім пустых пяскох лубін дае добрую **зялёную масу** толькі за другім ці трэцім засевам.

**Апрацоўка глебы пад лубін** мала чым адрозьніваецца ад іншай ярыны. Асабліва сур'ёзную ўвагу трэба зьвярнуць на чыстату поля, бо шкодныя травы вельмі шкодзяць усходам лубіну да часу зьяўленьня на яго кареньні гузачкоў (клубянькі). Да гэтага часу лубін расьце вельмі марудна. Для барацьбы са шкоднымі расьлінамі поле пад лубін трэба араць з восені.

**Угнаеньне глебы пад лубін** у нашых умовах робіцца вельмі рэдка. Але да гною (навет у невялікім ліку) па досьледам Новазыбкаўскае дасьледчае станцыі лубін вельмі чулы. Апошняе асабліва каштоўна, калі яго сеюць першы раз на пустых глебах.

**Мінэральныя ўгнаеньні** (парашкі) **значнага павялічэньня масы лубіну не даюць.** Гэта можна тлумачыць тым, што лубін у ніжэйшых пластох нашых глеб знаходзіць даволі для сябе пажыўных сокаў, якія не выкарыстоўваюцца іншымі расьлінамі.

Пры засевах лубіну трэба зьвярнуць увагу:

1) **на якасьць насеньня,** якое прызначана да засеву;

2) **на прысутнасьць у глебе лубінавых бактэрый** (мікробаў);

3) **на час, у які спаўняецца сеў лубіну;**

4) **на спосаб і глыбіню засеву.**

**Прадажны лубін часта мае малую ўсходжасьць,** бо буйное насеньне яго, калі яно ня добра высушана, пачынае плясьнець і траціць сваю ўсходжасьць.

Перад засевам лепш заўсёды спрабаваць усходжасьць насеньня. Для чаго з розных месц кучы насеньня бяруць 100 зярнят і кладуць

на талерку паміж двумя кавалкамі мокрага палатна і частавата змочываюць іх вадою.

Калі за 10 дзён прарасьце менш 70 зярнят, то насеньне лічыцца дрэнным і засеў такім насеньнем няпэўны.

Пры сярэдняй усходжасьці (каля 80 проц.) **патрэбна насеньня лубіну на 1 дзес.** 10 — 13 пуд. пры раськідным засеву і 8 — 10 п. пры радковым.

Другое, **дзеля добрага росту лубіну трэба яшчэ, каб у глебе былі лубіновыя бактэрыі**, якія бяруць з паветра азот і ўтвараюць на карэньні лубіну ўсім вядомыя клубянькі.

**У** полі, на якім лубін раней ня рос, гэтых бактэрый у глебе няма; яны зьявяцца толькі пад канец росту лубіну і, вядома, дапамогуць яму мала.

Пачынаючы сеяць лубін, варта заўсёды заражаць поле бактэрыямі. Спаўняецца гэта рознымі спосабамі. (Папярэдні і зусім рэдкі засеў лубіну на тым-жа полі ў мінулым годзе; раськіданьне па полі зямлі з-пад ранейшага севу лубіну і інш.).

Усе гэтыя спосабы заражэньня поля бактэрыямі ўжываюцца і пры засеву сэрадэлі.

**Заражэньне заўсёды трэба рабіць у хмарную пагоду і па магчымасьці хутчэй**, бо сьвятло сонца шкодзіць бактэрыям.

**Лубін любіць цяпло і баіцца веснавых прымаразкаў**, дзеля чаго найлепшым часам сяўбы лічыцца канец траўня. (**Насенны лубін сеюць раней!**). У сырую і халодную пагоду насеньне лубіну можа ня ўзышоўшы загніць. Прарастае насеньне лубіну пры 4—5° Цэльсія.

**Нельга вельмі глыбока прыкрываць насеньне лубіну**, бо, прарастаючы, ён павінен выносіць на паверхню зямлі свае (даволі буйныя) два першыя лісткі.

Пры мелкім-жа прыкрываньні (**на пяскох**) насеньне выбіваецца на паверхню даждэжом і гіне, а пры сухой пагодзе доўгі час не прарастае.

Лепшай глыбінёй прыкрыцьця лубіну на лёгкім пескавым полі трэба лічыць $^3/_4$—1 варш., а на больш шчыльных глебах і менш.

Лепшым спосабам засеву лубіну лічыцца радковы, пры якім усё насеньне можна ўкласьці на аднолькавую і патрэбную глыбіню.

Далей, ад **самага засеву і да заворваньня лубін не патрабуе ніякага догляду**, апрача мо' толькі аднаго поліва, калі ўсходы забіты шкадлівымі травамі.

**Пад жыта лубін трэба заворваць за тры-чатыры тыдні да засеву.** Трэба каб да засеву жыта зямля асела, а маса лубіну пачала б загніваць. Калі-ж масы было вельмі шмат і яна кепска прыціснута пластамі ральлі, то поле трэба павальцаваць.

Заворваць лубін можна няскошаны. Каромыслам плуга ці ланцугом, прывязаным да дышля плуга, лубін добра кладзецца і прысыпаецца пластамі ворыва.

**Здараецца, што лубін ідзе на ўгнаеньне бульбы і інш. ярыны.** Тут ужо можна атрымаць больш зялёнае масы. Дзеля гэтага лубін пакідаюць на полі да таго часу, калі пачнуць сохнуць дробныя лісьцікі сьцябла. Гэта паказвае, што лубін больш не расьце і яго можна заворваць. Ад часу красаваньня лубіну і да часу зьяўленьня на ім бліскучых струкоў вага масы лубіна можа павялічыцца ў $2^1/_2$—3 разы. (Досьледы Новазыбкаўскае дасьледчае станцыі).

Агроном *Б. Бабіцкі.*

# Як павялічыць ураджай бульбы.

Бульба зьяўляецца галоўнай асыпнай культурай Беларусі. Яна займае звыш 10% пасяўной плошчы. У Палесьсі бульба займае звыш 16% пасяўной плошчы. Ураджайнасьць бульбы ў умовах нашай сельскай гаспадаркі вельмі нізкая — у сярэднім па Беларусі 550 пуд. з дзес. Культура бульбы мае вялікае значэньне для сельскай гаспадаркі: яна павялічвае кармовыя запасы, дапамагае пашырэньню гадоўлі сьвіней і г. д. Бульба зьяўляецца рыначнай культурай Беларусі.

Пры нашым малазямельлі і лішках рабочай сілы патрэбна пашырэньне такіх расьлін, на культуру якіх траціцца шмат працы на малой плошчы зямлі. Бульба і зьяўляецца ў умовах Беларусі такой культурай, якая патрабуе найбольшую колькасьць рабочых рук (60—75 рабочых дзён на дзес. авёс-жа і ячмень толькі 14—15 дзён).

Для гаспадароў цікава ўжываць такія тэхнічныя спосабы, якія маглі-б павысіць ураджайнасьць бульбы.

Па досьледам Турскай с.-г. дасьледчай станцыі (Бабруйская акруга) ўраджай бульбы заўседы павялічаецца ад ворыва на зябь. Ураджай бульбы пасьля такой воркі на няўгноеным полі больш на 240 пуд., на ўгноеным-жа—на 378 пуд., або на 40%. Дзякуючы ворцы на зябь, з восені ржэўнік добра перапraвае. Ад гэтага ў зямлі бывае шмат перагною і пажыўных матэрый, якія карысны для яравых засеваў і асабліва для бульбы. Пры асеньняй ворцы насеньне дзікіх траў прарастае, а калі наступяць замаразкі, яны гінуць. Такім чынам, усе пажыўныя матэрыі, не скарыстаныя дзікай травой, застаюцца ў зямлі. А вясной яны будуць скарыстаны бульбай, якая дасьць павышаны ўраджай на 30—40%.

Ворку на зябь трэба рабіць раней. Глыбіня яе павінна быць 4 вяршка. Уплыў гэтай воркі на ўгноеным полі лепшы, чым на спустошаным, бо яна дапамагае лепш раскладацца гною. Ворка на зябь дае ўраджай бульбы на ўгноеным полі на 378 пуд. больш, чым на няўгноеным. Асеньняя ворка на зябь дапамагае вясеньняй і такім чынам бульбу можна пасеяць у час. Ворка на зябь у сярэднім павышае ўраджай бульбы на 300 пуд., што пры нашай цане (2 зл. за пуд.) дае 600 зл. Сама праца ў асеньнюю пару можа быць ацэнена ў 16 зл.

*С. Журык.*

# Як гадаваць цялят вясной і летам,

У гаспадарках нашых сялян цяляты родзяцца галоўным чынам ад студзеня да красавіка. Калі здараецца, што каровы целяцца позна вясною ці летам, то такіх цялят не гадуюць. Гэта робіцца затым, што ў рабочую пару малако патрэбна і дзеля сям'і гаспадара. З гэтай прычыны мы разгледзім гадоўлю цялят толькі тых, якія вясною маюць каля 3-х месяцаў.

Да 3-х месяцаў цялят трэба карміць перш малаком, а далей пойлам, сенам, мукой і цэлым зярном аўса. Пасьля 3-х месяцаў цялятам можна даваць сьвежа-скошаную траву ці пускаць іх на пашу.

У 3 месяцы сялянскія цялята важаць каля 3½-4 пуд. Пры такой

вазе ім трэба па норме 7 фунт. кармовых адзінак (ці проста 7 фун. сярэдняга аўса). Гэтыя 7 кармовых адзінак цяляты могуць атрымаць у розных кармох. Вясной, калі цяляты пасуцца на добрай траве, то яны зьядаюць каля 18 фун. травы, што замяняе 5 фун. кармовых адзінак, а недахватку 4 фун. кармовых адзінак абавязкова патрэбна дадаць аўсом. Авёс лепш усяго даваць цялятам 3 разы ў дзень (раніцай, днём і ўвечары). Без аўса цяляты хаця й растуць, але вельмі дрэнна. Ад такіх цялят нельга чакаць добрай каровы, бо яны самі заморкі. Хаця авёс і патрэбен у гаспадарцы, але калі памятаць, што з цяляці вырасьце дойная карова на некалькі год, то аўса шкадаваць ня трэба. Калі цялят падкармліваць аўсом, то з іх будуць буйнейшыя каровы і такім чынам далей можна павялічаць жывую вагу сялянскіх кароў. Паіць цялят трэба 3 разы ў дзень чыстай вадой.

Пераход ад хлеўнога ўтрыманьня цялят да веснавога ці летняга павінен быць паступовы. Першыя дні цялята кормяцца ў хлеве сухімі кармамі і выганяюцца на 1-2 гадзіны ў дзень; на 4 дзень на 3 гадзіны, на 7 дзень на 6 гадзін, далей і на цэлы дзень.

Вясной лепш усяго пасьвіць цялят у загарадцы. Для гэтага кавалак добрай пашы абносяць плотам і цялята там ходзяць увесь час. Летам цялят ня можна трымаць у хлеве, а таксама і пасьвіць іх на прывязі. Цяляты, як маладая жывёліна, павінны гуляць на прасторы, бо для іх вельмі патрэбна сьвежае паветра.

Калі пашы добрай няма, то цялят падкармліваюць кошанай травой. Падкормку гэту трэба рабіць абавязкова ў загарадцы, а ня ў хлеве. У хлеў-жа летам скаціну можна заганяць толькі на ноч.

Вясной у падкормку цялятам можна даваць траву, сабраную з меж; далей у палове ці канцы траўня падрастае канюшына і выкавая мяшанка. Гэты корм вельмі добры, але яго трэба даваць толькі сьвежым.

Ніколі ня трэба пускаць цялят у стада з авечкамі ці старою скацінай. Калі цяляты ходзяць з авечкамі, то яны будуць заўсёды галодныя, бо авечкі вельмі нізка зьядаюць траву і цялятам нічога не застаецца на пашы. Разам з каровамі цяляты таксама не пад'ядаюць. Пры такой пашы яны растуць вельмі дрэнна і бываюць маленькія. Праўда, на хутарох, дзе паша добрая і скаціны пасецца мала, цялят можна пасьвіць і разам з каровамі. Авёс-жа ў ліку 3-4 фунтаў на галаву цялятам трэба даваць усё лета.

Калі так гадаваць цялят, то з іх вырастуць добрыя каровы.

Агроном *Цімашкоў.*

# Правілы даеньня кароў.

Умелае кармленьне і даеньне кароў мае аднолькавае значэньне ў падтрыманьні малочнасьці. Няўмелым даеньнем можна хутка сапсаваць карову. І вось чаму кожны гаспадар павінен ведаць наступныя правілі даеньня.

1) Даіць карову трэба з правага боку аднячасова за дзьве сыскі (заднюю правую з пярэдняй левай і наадварот).

2) Нельга даіць двумя пальцамі, калі адцягваньне вымя робіць жывёле боль і непакой. Лепшым будзе даеньне далоньню. Робіцца яно так: сыска, як можна вышэй, бярэцца вялікім і паказальным

пальцамі, затым паступова сьціскаецца наступнымі пальцамі; малако пераходзіць з верхняй часьці сыскі і выцякае ў падойнік.

3) Першыя дзьве-тры струйкі трэба выдаіць на зямлю. Гэта прамывае канцы сысак ад папаўшай туды гразі і пылу, якія служаць прычынай порчы малака.

4) Даіць трэба без перапынку, роўнамерна, але хутка. Вялікая пена ў дайніцы ёсьць добрая прымета ўмелай дойшчыцы.

5) У часе даеньня, як і заўсёды, ня раіцца біць і крычаць на карову. Гэта прымушае карову неахвотна аддаваць малако, а то і затрымоўваць яго. З жывёлай трэба быць ласкавым.

6) Пільная ўвага патрэбна ў канцы даеньня. Ня раіцца пакідаць карову ня выдаенай. Гэта можа сапсаваць самую малочную карову. Яна паступова прывыкне пакідаць частку малака.

Для найлепшага выдойваньня раіцца злёгку пацерці вымя з усіх бакоў.

7) Пасьля даеньня трэба выцерці сыскі, змазаць іх вазэлінам, або нясоленым кароўім маслам.

8) Нельга абмачваць сыскі першымі струйкамі малака, што так часта любяць рабіць дойшчыцы.

9) Перад самым даеньнем ня трэба раздаваць корм, бо гэта ўздымае шмат пылу, ад чаго ў малако пападае пыл і розныя мікробы.

*Энтомолог Бранцау.*

# Зьнішчайце гародную блыху.

Гародныя блохі, або блашакі зьяўляюцца шкоднікамі нашых гародаў. З году ў год яны нападаюць на капусту, бручку, буракі, турнэпс, рэдзьку, рэпу, радыску. Кожны год гароднік думае, як яму адратаваць свой гарод ад гэтых шкоднікаў.

Каб барацьба з гароднай блыхою была пасьпешнай, трэба ведаць яе жыцьцё.

Капусныя блохі — гэта невялічкія жучкі (яны здатны скакаць). Яны асабліва рухавы і шкодны ў ясны сонечны дзень. Ёсьць блошкі чорныя блішчастыя; у іншых на сьпіне (па надкрыльлях) жоўтыя зьвілістыя пасачкі.

Перазімаваўшы пад грудкай зямлі, або сярод лісьця ці ў шчылінах гародніх будынкаў, блошкі прачынаюцца раньняй вясною. Перш яны ядуць дзікія расьліны (сьвірэпку, торбачнік палявы і інш.), а як толькі ў грунт пасаджана расада або ўзыходзяць засевы гародных расьлін, яны адразу накідваюцца на іх і ядуць лісьця. Ад гэтага на лістох зьяўляюцца дзірачкі (гл. мал.); лісьця пачынаюць жаўцець і сохнуць. Гароднікі іншы год па два ці тры разы садзяць расаду ці робяць новыя засевы, каб толькі атрымаць ураджай.

У канцы траўня, у пачатку чэрвеня жучкі пачынаюць класьці на лістох сарнякоў і гародніх расьлін яечкі.

З яечак выходзяць чарвячкі, якія ўядаюцца ў мякаць ліста і жывуць там, робячы ўім ходы. Чарвячкі некаторых блошах жывуць на карэньнях расьлін (турнэпс). Як толькі чарвячок вырасьце, ён выходзіць з ліста ці кораня і закопваецца ў зямлю, дзе ўжо ператвараецца ў дарослага жучка і дзе чакае новае вясны.

Гэткім чынам, жук-блошка, як і шмат іншых кузурак, перажывае

чымасьць карыстацца плошчай і займаць яе гароднінай, ягаднікамі і г. д. Апрача таго, на выпадак вайны і галадух маняцца садзіць у садох бульбу, сеяць пшаніцу.

Што тычыцца часу высадкі дрэў, то трэба дбаць аб тым, каб прышчэпы высаджваць раней восеньню, навет калі яшчэ трымаецца трохі пабурэўшы ліст. Ліст абрэзваюдь.

Пасьля пасадкі блізка каля штамба накідваецца курганчыкам зямля ў 35 сантымэтраў (6-8 вяршкоў), маючы мэту бараніць карэньні ад холаду; вясной курганчык разгорваецца.

На цяжкіх глебах дрэвы выгадней будзе садзіць веснавою парой.

Абрэзка кароны першай вясной з найбольшым пасьпехам магчыма тады, калі прышчэпы будуць высаджаны ўвосень.

Прышчэпы трэба высаджваць квадратам.

Спачатку трэба паставіць аструганы кол у 12 сант. (3 вяршкі) таўшчыні і ўбіць яго ў зямлю. Прымаючы пад увагу, што ў час пасадкі зямля павінна быць добра выраблена (пасьля бульбы), астаецца толькі выкапаць невялікую ямку дзеля таго, каб зьмясьціць толькі карэньні прышчэпкі. Капаць глыбокія ямы ў нашых выпадках мы лічым не патрэбным і навет шкодным. Дрэва трэба зьмясьціць з поўначы, каб з поўдня кол затрымліваў прыпёк сонца.

Першыя 5 8 гадоў даглядаюць, каб штамб быў добра прыцягнуты да кала. Блізка карэньняў падкідваюць кампост, або гной (штогод) і з вясны перакапываюць.

У першыя гады паміж дрэвамі часта кладуць гной і садзяць бульбу, буракі, капусту, гарох і іншыя бабовыя расьліны (апрача канюшыны); карысна заворываць лубін. Ніколі ня сейце жыта, пшаніцу, авёс у садзе.

У працягу 3-4 гадоў пры гэткім доглядзе сад вельмі шпарка пойдзе ўрост.

Шмат садоў, заложаных у 1922 і 1923 г.г. у ваколіцы Горак пад нашым доглядам, сьведчаць аб значным дасягненьні ў гэтым напрамку. Здаецца, што па буйным узросту дрэвы высаджаны нібы 5-6 год.

Мінулы год маладыя сады густа зацьвілі, але *плодазавязь* сарвалі, чаму ўзрост штамба яшчэ павялічыўся.

*З. В.*

## Лекарскія зёлкі.

Найлепшай парою да зьбіраньня лекарскіх зёлак з'яўляецца сонечні поўдзень, калі раса абсохне. Зельле, сабранае з расою, або мокрае ад дажджу, чарнее і лёгка загнівае, а тады ўжо яно ні на што ня здатнае і ніхто яго ня купіць.

Рэдка бывае памоцным усё зёлка ад караня да кветкі; найчасьцей з аднаго зёлка зьбіраем толькі кветкі, з другога лісьця, з трэцяга кару, ягады, карэньні. Кожную частку зельля стараемся сабраць у тую пару, калі яно мае ў сабе найбольшы запас лекарскіх субстанцый. Кветкі звычайна зьбіраюцца падчас поўнага іх красаваньня; овацы і насеньня павінны быць зусім сьпелымі; лісьця перад красаваньнем; цэлыя зёлкі падчас красаваньня; карэньні ўвосені або рана вясною; кара вясною, перад тым як зварушацца сокі дрэва.

Зьбіраюцца зёлкі толькі здаровыя, моцныя; хворыя, папсаваныя,

слабыя, заражаныя іржою і надта брудныя—старанна абмінаем.—Мыць зёлак нельга; нат карэньні трэба мыць вельмі хутка, каб не нацягалі вады і пасьля, праз пару гадзін пратрымаць іх у падвышанай тэмпэратуры, каб хутчэй абсохлі.

Сушыць зёлкі можна: на вольным паветры (карэньні), у сухім і цёплым месцы (лісьця), у цяньку (кветкі) і ў сушарні, або ў печках пасьля хлеба (карэньні і некатарыя ягады). — Кветкі, лісьця і цэлыя зёлкі трэба сушыць зараз-жа пасьля збору. — Расьцілаюць іх на чыстых дошках, палатне, або паперы памагчымасьці самым тонкім пластам, каб ня парыліся і хутка высыхалі. На адзін квадратны мэтр расьцілаецца цэлага зельля або лісьцяў 1-м кіляграм, а кветак ½ кіляграма.

Карэньні, апрача некатарых, крышацца ў кружкі, або квадраты велічыні 1-го сантымэтра. Кара, зьдзёртая з галін, крышыцца ўпоперак. Ягады: маліны, рабіны, суніцы (чырвоныя ягады) трэба сушыць на сонцы, тады яны затрымаюць свой колер, без каторага ў прадажы ня маюць вартасьці.—Чорныя ягады і др. можна сушыць у печках пасьля хлеба, пільнуючы, каб не прыгарэлі.

Акуратна высушаныя зёлкі, гэта ўжэ „тавар", які вымагае адпаведнай упакоўкі. Некатарыя пакуюцца ў мяшкі, другія ў скрынкі; як у першых так і ў другіх павінны быць моцна ўціснутыя. Трымаць трэба такі тавар абавязкава ў самым сухім месцы, а найлепш пасьля заканчэньня збору даннага зёлка зараз-жа яго адсылаць купцу, з якім зробленая ўмова.

---

Ніжэй буду падаваць апісаньня лекарскіх зёлак у тым парадку, як іх, пачынаючы з вясны, можна зьбіраць, бяручы пад увагу выключна тыя, якія маюць гандлёвае значэньне.

У траўні з найбольш платных зьбіраем:

### Карэньні:

**Дзеравянкі** (Potentilla tormentilla). **Панчошніка**, інакш Сабачае мыла (Saponaria officinalis). **Буквіцы**, інакш касьцян, купальнік (Arnica montana).

### Лісьця.

**Мучальніка** (Arctostaphylos Uva Ursi). **Сончыкаў** (Anemone Pulsatilla).

### Кветкі.

**Канвалеі**—(Convallaria majalis). **Зязюльчыных панчошкаў** (Грабелькі, Ключыкі сьв. Пятра і Паўла). (Primula officinalis), **Падбелу**—Tusilago farfara).

### Ягады.

**Ялаўца.** Juniperus communis).

### К а р а.

**Крушыны** (Rhamnus frangula).

1) **Дзеравянка.** Расьлінка трывалая; расьце ў цяністых мясцох, зарасьлях, на пасеках. Быльнік тоненькі, сьцелецца па зямлі; лісьця бліскучыя, прыземныя, трыдзельныя, цыбніковыя пяцідзельныя. Кветкі маленькія, жоўтыя чатырохпялёстныя. Корань грубіні пальца, зьверху чорнабуры, у сярэдзіне чырвонабуры, зьбіраецца ўвосені, або вясною,

пакуль цыбнік расьці не пачынае. — Акуратна памыты крышыцца ў дробныя, роўныя кусочкі і сушыцца ў цяньку.

2) **Панчошнік**. Расьце каля хатаў, пад плотамі і на межах. Дарастае 30-60 цм. вышыні. Цьвіце ад чэрвеня да жніўня белым, або бледна-ружовым цьветам, зложаным у зорку з 5-ці адваротна яйцаватых пялёсткаў.—Карэньні старэйшых расьлін капаюць увосені, або вясною, мыюць, дробна крышаць і сушаць у цяньку. — Сухі корань звараны ў вадзе дае пену, як мыла, у якой вельмі добра мыецца ўсялякая чорная вопратка.

3) **Буквіца**. Невялікая расьлінка, мае быльнік і яйцаватыя лісьця, густа пакрытыя валаскамі, кветачныя галоўкі даволі вялікія, залаціста-жоўтыя. Уся расьліна мае прыемны пах, смак яе горкі; расьце на макраватых месцах, у зарасьлях.—Лякарскае значэньне маюць кветкі і карэньні.—Кветкі зьбіраюць, як толькі яны распускаюцца — (перацьвіўшыя няздатныя) праз чэрвень і ліпень.—У кветках буквіцы знаходзіцца шмат усялякіх казюляк; каб іх пазбыцца, дасушваюць кветкі над гарачым вугальлем. — Каб атрымаць лепшы тавар, трэба кветкі адшчыпаць і высушыць бяз кветчанага дня. — Аднак, большае значэньне, чым кветкі, мае корань буквіцы і даражэйшы ён у пяць разоў.—Рана вясною капаюць яго, чысьцяць, крышаць дробна і сушаць у печках, або сушарнях. — Як кветкі, так і карэньні ўпаксўваюцца ў шчыльныя скрынкі, каб ня страцілі паху.

**Мучальнік** (Мачанічнік). Невялікі ўсезялёны кусьцік з сьцелючымся цыбнікам, вельмі падобны да брушніцы. Ягады таксама вельмі падобны з вонкавага выгляду, бо ў сярэдзіне гучністыя і з цьвёрдымі зярнятамі. Расьце цэлымі пластамі найбольш у сасновых лясох, па ўзгорках. Цьвіце ў траўні і чэрвені. Лісьця мучальніка можна зьбіраць праз усё лета; сушыць у цяньку і сухое перасеяць праз драцяное сіта. Трэба зьвяртаць вялікую ўвагу, каб не зьмяшаць лісьцяў чарніцы, або брушніцы, бо тады тавар ня будзе мець ніякай вартасьці.

**Сончыкі**. Лісьця маюць шэра-зялёныя, трайчаста пярыстыя. Званкаватыя, вялікія, цёмна-фіалетавыя кветкі сядзяць па аднэй на высокіх шэра-кашлатых цыбніках. Цьвіце ў сакавіку і красавіку. Расьце на сухіх пяшчаных узгорках. Зельле зьбіраюць падчас красаваньня і сушаць у цяньку; мае яно смак гостры пякуча-горкі і зьяўляецца даволі сільнай атрутай.

**Канвалея**. Мае два шырока-лянцэтаватыя лісьця, з паміж каторых выходзіць невялічкі цыбнік, на якім зьвешываюцца на адзін бок чыста-беленькія вельмі пахнючыя кветкі, кругла-званкаватай формы. Цьвіце ў траўні і на пачатку чэрвеня. Расьце ў цяністых лясох. Зьбіраюцца кветкі бяз кветачнай ножкі і сушацца ў цяньку. Павінны захаваць свой прыродны белы колер. Асобна зьбіраюцца лісьця бяз цыбалак. Уся расьліна—атрута.

**Зязюльчыныя панчошкі**. Лісьця маюць яйцаватыя, зморшчаныя, кругла-зубкаваныя. Кветкі сьветла-жоўтыя, рулькаватыя, сабраныя круглымі кутасамі на вярхох 15—30 цм-вых цыбнікоў. Цьвіце ў красавіку і траўні. Расьце на мурагох, у садох, па берагох лясоў. Зьбіраюць кветачныя кароны і сушаць ў цяньку. Сухія кветкі моцна ўціскаюцца ў шчыльныя скрынкі. Сухія кветкі моцна пахнуць мёдам.

**Падбел**. Мае корань глыбака сядзячы ў зямлі, які ў сакавіку і красавіку выпускае некалькі нявысокіх бела-кашлатых цыбалак, на каторых сядзяць па аднэй жоўтыя зложаныя кветкі. Як яны ўжо ад-

цьвітуць, тады выходзяць з зямлі прыземныя круглавата-сэрцаватыя лісьця, зьверху гладкія, бліскучыя, падысподам бела-кашлатыя. Расьце падбел на сонечных мейсцах, на вільготным, глінiстым груньце. Для лекарскага ўжытку зьбіраюць кветачныя галоўкі бяз цыбалак і сушаць у цяньку; гэтак сама сушацца і лісьця, якія можна зьбіраць праз усё лёта, да жніўня. Часам зьбіраюць і карэньні рана вясною. Найбольшае застасаваньне маюць лісьця.

**Ялавец**. Шпількoвы куст. Расьце ў сухіх лясох на пясках. Цьвіце ў красавіку. Ягады яго з пачатку зялёныя ў восені робяцца цёмна-сінімі і дасьпяваюць толькі на другі год. Зьбіраюцца сьпелыя ягады ўвосені, або вясною. Сушацца ў цяньку.

**Крушына**. Куст ад 1 да 3 мэтраў вышыні, з гладкімі галінкамі; лісьця элептычныя, кветкі дробныя зялёна-жоўтыя, зьяўляюцца ў траўні і чэрвені. Ягада велічыні гароху, з пачатку зялёная пасьля чырвоная, а ў канцы чорная. Расьце крушына ў вільготных, цяністых зарасьлях. Кара крушыны зьбіраецца вясною, найлягчэй і наляпей з старэйшых кустоў. Зьдзіраюць яе паскамі ўшырыню 1 цм-ра і крышаць у квадраты. Запатрэбаваньне вялікае—дзесяткі вагонаў.

*Бедрыцкі.*

# Ворагі і дабрадзеі ў сельскай гаспадарцы.

Прышла вясна. Прыляцелі з далёкіх краін птушкі, павыпаўзалі з месц зімоўкі жабы, вужакі; вылецялі кажаны, замятусіліся мышы. Усё пачынае жыць поўным жыцьцём. Чалавек жа разглядае кожную жывёліну ці збоку яе карысьці, ці шкоды. Асабліва гэта цікава для сельскіх гаспадароў. Трэба сказаць, што нашы гаспадары часта маюць тут неправілoвы погляд і трымаюцца варожа ці вядуць барацьбу там, дзе жывёліна заслугоўвае прыхільнасьці і падзякі.

Робіцца гэта таму, што селянін—гаспадар не заўсёды ведае, якая жывёліна прыносіць карысьць і якая шкодзіць. Так, да вядомай усім жабы, хоць ня пекнай на выгляд, але вельмі карыснай, гаспадар заўсёды трымаецца ваража. Другі прыклад. Усім вядома, што вясковыя дзеці за адно лета прыносяць птушкам больш шкоды, чым усе яго натуральныя ворагі за цэлы год. І ніхто ім гэтага не забараняе. Замест таго, каб стварыць спрыяльныя варункі, напрыклад, для такіх птушак, як шпак, ластаўка і г. д. дзеці сваімі адносінамі адганяюць птушку ад свайго будынку, саду, гароду. Больш таго, сяляне часта глядзяць на разбурэньне птушыных гнёзд дзецьмі, як на няшкодную забаву.

А між тым, гаспадар не зьвяртае ўвагі на шмат якіх шкоднікаў. Так, вядома, што мыш ня больш церпіць ад гаспадара, чым кажан, ці тая-ж самая жаба, ястраб, начная сава. Усіх іх селянін пры ўсялякім выпадку забівае. І гэта ў той час, калі мыш і ястраб зьяўляюцца ворагамі гаспадара, а начная сава, жаба, кажан—яго дабрадзеі.

Гаспадары Амэрыкі добра ўцямілі карысьць, якую прыносяць гаспадару большасьць палявых птушак і ня толькі не вядуць з імі барацьбы, а стараюцца прывабіць іх да сваіх садоў, гародаў, палёў, сенажацяй. Як бачым, і тут нам можна браць прыклад з замoрскіх стран. Трэба зразумець, што шпак, ластаўка, дрозд, сініца, стрыж, начная сава, кажан, жаба, вожык і інш. — ёсьць дабрадзеі селяніна.

Усе яны зьнішчаюць нязьмерны лік усялякае машкары, жукоў, чарвей, вусеняў, а начная сава і вожык—мышэй. Усе яны прыносяць чалавеку няпрыметную, але вельмі значную карысьць. А гэта значыць, што ня толькі сам гаспадар не павінен забіваць іх, а наадварот бараніць і ад сваіх дзяцей.

Справа, здаецца, заслоўгоўвае таго, каб яе парушыць. Ні асобных сродкаў, ні шмат часу яна не вымагае.

*Як.*

## Яшчэ адзін даход у гаспадарцы*).

Кожны з гаспадароў павінен рупіцца, каб, як мага, павялічыць свае мізэрныя даходы, і вось, адным з такіх пабочных даходаў у вёсках, будзе зьбіраньне ляснога насеньня г. зн. насеньня з соснаў, ёлак, дзікіх ігруш і яблыняў. Калі прыгледзіцца цэнам, якія плацяць за гэта насеньне, дык пабачым, што яны даволі вялікія і тое хай заахвоціць да яго зьбіраньня. І так за насеньне сасны—20—25 злот. за 1 кіляграм; за насеньне ёлкі — 8—10 злот.; ігрушы дзікай—45—50 злот.; яблыні дзікай—25—30 злот.

Дзеля збору насеньня сасны ды ёлкі трэба набраць з гэтых дрэў сьпелых шышак, каб толькі ня былі раскрытыя і старыя, і кожную партыю іх павесіць паасобку над печкай у палатняных мяшках, тады ад цяпла шышкі раскрываюцца, а ўстрасануўшы мяшком, насеньне з іх высыплецца на дно мяшка, адтуль яго вынімаюць і складаюць у сухім мейсцы, а мяшкі ізноў вешаюць, каб дарэшты ўсё насеньне з шышак высыпалася; паўтараюць гэтую працэдуру некалькі разоў, каб выбраць усё насеньне дачыста. Ігрушы дзікі і яблыні дзікі (фрукты) зьбіраюць паасобку ды гнояць іх, як кожнае згніе ў масу (трэба толькі берагчы ад мышэй), насеньне вымываюць вадой і аддзяляюць на сітах ад гнілой масы. Пасьля яго прасушываюць на рэдкай ткані, ці сітах на вольным паветры, у хаце над печкай і складаюць у сухім мейсцы ў палатняныя мяшкі. Кожнае насеньне лягчэй прадаць, калі яго многа, дзеля таго трэба старацца набраць яго, як мага, балей, ды некалькі кіляграмаў кожнага сорту, калі гэта ня ўдасцца, дык пры прадажы злучаюцца некалькі гаспадароў разам. Нясеньне гэтае купцы купляюць толькі сьвежае тагагодняе, у якім было сабрана. Прадаць яго можна большым насенным крамамам у Вільні, Горадні, Варшаве, куды трэба напісаць ці пры аказіі завясьці насеньне самім.

---

*) Матэрыял да стацьці часткай узят з „Tygodnika Rolniczego“ № 1—2—1926 г.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.